№ 30 (819) 14 жніўня 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



# Горкі: год пасля «Дажынак»

## Мільёны даляраў уклалі ў плітку, а яна развалілася

Карэспандэнт «Нашай Нівы» наведаў сталіцу «Дажынак-2012» — тых самых, на падрыхтоўку да якіх было змарнавана 120 мільёнаў народных грошай.

Старонка 9.

# Чаму памёр 21-гадовы

Афіцыйная версія: «У яго было буйства: кідаўся, падскокваў».

Смерць арыштанта Ігара Пцічкіна ў мінскім СІЗА на Валадарскага выклікала рэзананс. Хаця пакуль няма афіцыйнага заключэння аб прычыне смерці, у інтэрнэце ва ўсім вінавацяць супрацоўнікаў ізалятара. Родныя праводзілі хлопца адбываць 3-месячны арышт за язду без правоў, а назад атрымалі нежывое цела, усё ў сіняках.

### Курыў спайс?

Калі родным паведамілі пра смерць Ігара — ад сардэчнага прыступу, — яны адправіліся на прыём да начальніка СІЗА Вікенція Варыкаша. А відэа размовы выклалі ў інтэрнэт.

«Ён не зусім адэкватна ўспрымаў тое, што адбывалася. Кантралёрам даводзілася яго стрымліваць — ён выламваўся з камеры», — расказвае на відэа начальнік медчасці, дзе хлопец памёр. Праз гэта вечарам 3 жніўня Ігара, нібыта, перавялі з камеры, зафіксавалі мяккімі рамянямі. Памёр ён на вачах у зняволеных і кантралёра. «У яго было буйства. Пачалося псіхаматорнае ўзбуджэнне. Ён кідаўся, падскокваў. У яго нешта адбылося ў галаве».

Але ўзнікае пытанне: калі сведкамі смерці Ігара Пцічкіна былі некалькі чалавек, то чаму не праводзілася рэанімацыя?

«Ніхто яго не збіваў. Што ён курыў на свабодзе, што ўжываў?» — пытаецца начальнік СІЗА, намякаючы, што ў хлопца здарылася «ломка». «Вы ўжо ведаеце сутнасць справы. У вас тут што, самасуд?» — прамаўляе сястра Ігара.

Можна было б прыняць гэтыя рэплікі як сказанае на эмоцыях. Але начальнік медчасці сказаў, што хлопец ужываў курыльныя сумесі. Ён нібыта прызнаўся пра гэта фельчару.

**Курыльныя сумесі (спайс)**

гэта травы, пакрытыя сінтэтычным рэчывам, якое і выклікае наркатычны эфект, а таксама залежнасць. А як толькі чалавек перастае іх курыць, здараюцца псіхозы.

За выраб, распаўсюд і захоўванне спайсу прадугледжана крымінальная адказнасць. Але праз тое, што сінтэтычнае рэчыва пастаянна змяняецца, яго не паспяваюць уносіць у спіс наркатычных. І ў такім выпадку распаўсюднікам пагражае толькі штраф за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.



Такія гематомы былі на целе памерлага Ігара Пцічкіна.

### Ад «ломкі» памерці немагчыма

«Ломка праяўляецца болямі, напрыклад, суставаў. Наркаманы кажуць, што і косткі ломіць, і нутро выварочвае. Ад болю яны не могуць ні стаяць, ні ляжаць. Але не могуць не рухацца, а рухацца балюча», — тлумачыць нам намеснік галоўнага доктара па лячэбнай частцы мінскага гарадскога клінічнага наркадыспансера Аляксандр Алішэвіч.

Большасць наркаманаў у Беларусі — опіумныя, і «ломка» пачынаецца, як правіла, у першыя суткі. Пры слабейшых наркотыках яна можа праявіцца пазней.

Аляксандр Алішэвіч звяртае ўвагу, што «ломка ў чыстым выглядзе не можа прывесці да смерці. Але ёсць агаворкі. Само па сабе ўжыванне наркотыкаў выклікае шэраг саматычных захворванняў: у такога чалавека ўжо нездаровыя сэрца, лёгкія, пячонка... Падчас ломкі захворванні абвастраюцца. І яны могуць прывесці да смерці, але не сама ломка».

«Псіхаматорнае ўзбуджэнне можа быць і ў алкаголікаў, і ў асобаў, якія пакутуюць на расстройства асобы. І ў звычайнага чалавека як вострая рэакцыя на стрэс: адбылося нейкае здарэнне надзвычайнае ў псіхалагічным плане. У наркаманаў псіхаматорнае ўзбуджэнне звычайна ўзнікае пры перашкодзе атрымаць дозу».

Пры «ломках» людзей вязуць у наркадыспансер альбо РНПЦ псіхічнага здароўя. Калі ж няма такой магчымасці, іх трэба шпіталізаваць, у рэанімацыю.

### Так сябе збіць сам чалавек не можа

Родныя Ігара Пцічкіна сфатаграфавалі яго цела. На ім бачныя сінякі на руках, нагах, жываце, пад рэбрамі. Яны ўпэўненыя, што хлопца моцна білі, праз што ён і памёр.

«Падчас прыпадку чалавек можа рабіць што заўгодна. Але ёсць магчымыя па механіцы траўмы і немагчымыя. Сам чалавек можа сабе пашкодзіць галаву і канечнасці (проста біцца аб сценку ці раздзіраць сабе твар альбо вены). Сінякі на жываце самому зрабіць цяжка, бо нязручна. Калі толькі сведкі не скажуць, што ён са шконкі з другога яруса на стол жыватом скокнуў, — расказаў адзін са сталічных дактароў. — На фота відаць, што рукі фіксавалі. Але рэбры для самапашкоджання — нетыповае месца. Сам сябе так не паб'еш. Крымінальныя судмедэксперты ў гэтым абазнаныя».

Доктар кажа, што такія пашкоджанні можна нанесці мёртваму. «Але нашто? Звычайна з'яўляюцца гіпастатычныя сінякі — на спіне, там, куды кроў пасіўна сцякае. На выгляд, гэтыя не ўласцівыя аўтапашкоджанню і не падоб-

## Сціісла

### Ладуцька заклікаў брацца за масавы выпуск сякераў і косаў

«Цяпер на МПЗ выпускаюць 40 тыс. сякер у год. А трэба выпускаць 400 тыс. і прадаваць гэтую прадукцыю ў Расію, Украіну», — заўважыў старшыня Мінгарвыканкама. У інтэрнэце жартуюць, што паўстанцы Каліноўскага былі б задаволеныя такімі пастановамі.

### У Гродне безбілетнік збіў кантралёра

Малады чалавек абурыўся дзеяннямі кантралёра і нанёс ёй удар кулаком у твар. З заявай аб нападзе кантралёрка звярнулася ў міліцыю. Цяпер хулігану пагражае да 6 гадоў турмы.

### Ахоўнікаў гомельскага «Еўраопта» звольнілі

Бойка адбылася ў гомельскай краме. Ахоўнікі папрасілі хлопца і дзяўчыну паказаць чэк за шакаладку, якую тыя елі. Пакутнікі не паказалі. Завязалася бойка. Пацярпела нават дзяўчына. У выніку службовага расследавання было ўстаноўлена, што кліенты не мелі рацыі. Тым не менш, у кампаніі «Еўрагандаль» лічаць «недапушчальнымі дзеянні супрацоўнікаў аховы, якія парушылі службовую інструкцыю і нормы прафесійнай этыкі, прынятыя ў кампаніі». Таму іх звольнілі.

### Прысуд Класкоўскай – 23 жніўня

Шведскі суд прызнаў беларуску Вольгу Класкоўскую адэкватнай, псіхічна здаровай. Эмігрантку абвінавачваюць у нападзе са зброяй на свайго былога мужа. Пракурор патрабуе 8 гадоў турмы і 15 тысяч еўра кампенсацыі.

### Мітрапаліт Кандрусевіч наведаў Канаду

10 і 11 жніўня ў канадскім горадзе Мідланд архідыяцэзіі Таронта прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя памяці канадскіх мучанікаў XVII ст. Санктуарый знаходзіцца за 150 кіламетраў ад Таронта. Ва ўрачыстасцях браў удзел мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

### «Палескія рабінзоны» Маўра выйшлі аўдыёкнігай

Інтэрнэт-крама Prastora.by і гуказапісвальная кампанія BelTonMedia выпусцілі дыск з аповесцямі «Палескія рабінзоны» і «У краіне райскай птушкі» Янкі Маўра. Творы, на якіх вырасла некалькі пакаленняў, і сёння чытаюцца з цікавасцю. А напісаныя яны больш за 80 гадоў таму.

### Чатыры кані з Латвіі сышлі «ў самаволку» ў Беларусь

Аб жывёлах, якія пайшлі ў напрамку мяжы з Беларуссю, памежнікам паведаміла гаспадыня. Пра гэта адразу былі апавешчаныя беларускія памежнікі, якія і знайшлі коней на беларускім баку мяжы. Неўзабаве коні былі перададзеныя гаспадыні.

КМ, ЛМ

### Апытанне на nn.by

**Хто Ваш любімы беларускі пісьменнік?**

| | | |
|---|---|---|
| Янка Купала | 127 | 6% |
| Якуб Колас | 99 | 5% |
| Максім Багдановіч | 179 | 9% |
| Максім Гарэцкі | 54 | 3% |
| Уладзімір Караткевіч | 867 | 42% |
| Васіль Быкаў | 612 | 30% |
| Іншы | 122 | 6% |

Усяго прагаласавала 1881.

**Рэкамендуем**

### Знойдзена магіла кіраўніка беларускай антысавецкай партызанкі 1920-х

Цімох Хведашчэня быў выбітным афіцэрам арміі Балаховіча. Піша Алесь Кіркевіч.

**Чытайце на nn.by.**

### Самае чытанае на nn.by за 7—13 жніўня

1 «Менш чым з $7000 тут няма чаго рабіць»: рэпартаж з аўтарынку
2 У мінскім СІЗА памёр 21-гадовы арыштант
3 Мінская міліцыянтка паказала паўаголеныя фота?
4 Мільён за кватэру. Жыхары гаргары Чыжа: хто яны?
5 Члена Цэнтрвыбаркама зарэзалі ва ўласнай кватэры
6 Як у Мінску адзяваюцца ў спёку
7 Што за хлопцы прадаюць у Мінску на скрыжаваннях расійскія сцяжкі?
8 Цуд у Шатландыі: ФК «Мінск» прабіўся ў плэй-оф Лігі Еўропы!
9 «Ён баяўся нават уколаў, які ён наркаман?!»
10 Прэс-сакратар мінскай міліцыі «выцягнуў з пятлі» ахвяру «паляўнічых на педафілаў»

# вязень мінскага СІЗА

ныя на наступствы аказання рэанімацыйнай дапамогі».

Што ж здарылася за кратамі? Ці мог адбыцца канфлікт з сукамернікамі? Грамадскасць не ведае, хто яшчэ сядзеў у адной камеры з Пцічкіным.

Кантралёры? Ніхто не расказаў, як адбываўся пераход хлопца ў медчасць. Верагодна, на яго начапілі кайданкі. Але чалавек вырываўся. Вядома, маглі і прыкласціся кулаком альбо яшчэ чым. А для смерці, бывае, дастаткова аднаго ўдару, каб пашкодзіць адзін з унутраных органаў.

### Мог пазбегнуць турмы

Цяпер усе чакаюць вынікаў афіцыйнай экспертызы. Канечне, родным Ігара Пцічкіна нічога не застаецца, як вінаваціць у яго смерці супрацоўнікаў СІЗА. Сына яны адправілі на трохмесячны арышт маладым і жывым, а вярнулі яго мёртвым і непазнавальным.

Ігар, дарэчы, мог пазбегнуць арышту. У яго забралі правы кіроўцы на пяць гадоў у 2011 і далі штраф у 10,5 мільёна. Тады, прызнае маці, ён сеў за руль нападпітку і трапіў у аварыю. Было яму ў той час 19 гадоў. Але ў сакавіку 2013 зноў сеў за руль. Хоць і быў цвярозым, але на яго завялі новую справу. А за пару дзён да суда яшчэ раз трапіўся даішнікам за рулём. У выніку 30 ліпеня яго адправілі пад арышт.

**Сяргей Макарэвіч**

**Сацук: Хутчэй за ўсё, сукамернікам загадалі «павыхоўваць» Пцічкіна, а той не вынес здзекаў**

Журналіст Сяргей Сацук у эфіры радыё «Свабода» выказаў здагадку, што насамрэч магло адбыцца з Ігарам Пцічкіным.

«У беларускай пенітэнцыярнай сістэме захоўваецца аўтарытарнае падаўленне волі вязняў. Адміністрацыя выкарыстоўвае сілавыя метады з дапамогай іншых зняволеных. Калі хтосьці не падпарадкоўваецца або не выконвае ўказанні, то іншым зняволеным даецца каманда падавіць яго фізічна. Хутчэй за ўсё, у дадзеным выпадку была дадзена такая каманда і сукамернікі «павыхоўвалі» Пцічкіна, — разважае Сяргей Сацук. — Гэтае збіццё дало ўскладненні на сардэчна-сасудзістую сістэму. У хлопца аказалася слабое сэрца, і ён памёр ад прыступу, не вынес гэтых пабояў, здзекаў, перажыванняў. Адміністрацыя не чакала, што такія пабоі, што з'яўляецца звычайнай практыкай для пенітэнцыярнай сістэмы Беларусі, будуць мець такія наступствы».

На думку Сацука, адміністрацыя спрабуе зняць з сябе адказнасць, спасылаючыся на слабое сэрца Ігара.



**Ігар Пцічкін працаваў аўтамеханікам. На фота ён са сваёй нявестай Ганнай.**

# Менгеле і Айбаліты турэмнай медыцыны

Выпадак 21-гадовага мінчука Ігара Пцічкіна прымусіў задумацца, што ўвогуле ўяўляе з сябе турэмная медыцына.

Мы апыталі былых палітвязняў, якія падчас знаходжання за кратамі мелі істотныя праблемы са здароўем.

### «Дактары спрабавалі застацца дактарамі»

Зміцер Бандарэнка мучыўся ў турме ад праблемаў са спінай. Урэшце яму зрабілі аперацыю на хрыбце. Пасля з'яўляліся іншыя балячкі — сасуды.

«Турэмная медыцына нярэдка выкарыстоўваецца як сродак ціску на вязняў, — кажа Зміцер. — На этапе следства табе кажуць, што належную дапамогу могуць аказаць толькі ў тым выпадку, калі ты будзеш супрацоўнічаць, даваць паказанні. Так было і ў мяне ў «амерыканцы», калі мне трэ' былі кансультацыі неўролага, нейрахірурга. Я б сказаў, што ў турме КДБ не было як такой медыцыны, а былі элементы медыцыны».

### «Штодня па камерах ходзіць фельчар»

Потым Змітра перавялі ў іншы следчы ізалятар на вуліцу Валадарскага, туды, дзе і адбыўся выпадак з Ігарам Пцічкіным.

«Штодня па камерах ходзіць фельчар, запісваючы, ці ёсць у каго скаргі, ці трэба кансультацыі доктара, раздае таблеткі. Тым не менш, просьбы могуць проста праігнараваць. Я чакаў прыёму ў доктара больш за тыдзень».

Характэрная рэч, што на сёння больш не існуе Рэспубліканскай турэмнай бальніцы, якая раней месцілася на Кальварыйскай. Ёсць асобныя аддзяленні на сотню чалавек у тым жа СІЗА на Валадарскага і ў Жодзіне.

«Гэта камера з двух'яруснымі ложкамі. Пасля аперацый людзі нярэдка вымушаныя лезці на другі паверх. У дачыненні да мяне нагляд быў належным, але гэта дзякуючы ўвазе міжнароднай арганізацый», — працягвае Бандарэнка.

### «Дактары спрабавалі застацца дактарамі»

«У Магілёўскай турме №15 умовы былі больш-менш. Было добрае харчаванне. Адзіны мінус — адсутнасць прагулак для хворых. Ведаеце, у турэмнай медыцыне шмат чаго залежала ад аператыўных работнікаў. У медчасць маглі пакласці і здаровага чалавека, калі быў такі загад, а хворага — не. Ужо няма чалавек дванаццаць з тых, з кім я сядзеў», — расказвае Бандарэнка.

Тым не менш, ён кажа, што кваліфікацыя дактароў была нармальнай. «Калі няма загаду на адваротнае, то яны робяць усё прафесійна».

Аперацыю Бандарэнку рабілі ў цывільным шпіталі. Адразу пасля хірургічнага ўмяшання яго прыкавалі кайданкамі да ложка, ахоўвалі тры міліцыянты. «Гэта вельмі дарагое задавальненне. Таму ўсе хочуць, каб хутчэй выпісалі».

Зміцер кажа, што адной з галоўных праблемаў з'яўляецца не якасць медыцынскіх паслуг, а адсутнасць сродкаў на лячэнне. «Існуе такое грамадскае меркаванне, што там бандыты і іх лячыць неабавязкова. І гэты стэрэатып падтрымліваюць чыноўнікі, а калі самі аказваюцца ў турме, то жахаюцца ад мясцовай медыцыны. Пры ўсім пры гэтым дактары спрабавалі застацца дактарамі».

### «Адна ад галавы, другая — ад жывата»

«Турэмная медыцына — рэч вельмі спецыфічная», — кажа сустаршыня Хрысціянскай дэмакратыі, палітвязень Павел Севярынец.

У яго падчас зняволення быў зашчэмлены нерв на спіне.

«На Акрэсціна ёсць такі сумны жарт, блізкі да праўды. Калі прыходзіць лекар, то ён разломвае таблетку на дзве часткі. Адну дае ад галаўнога болю, другую — ад жывата. На «сутках» вельмі мала што ёсць з лекаў. Калі сапраўды ўзнікаюць праблемы, то выклікаюць дактароў з хуткай дапамогі.

У «амерыканцы» усю інфармацыю, што запісвалі медыкі, хавалі ад вачэй самога пацыента. Ён нешта піша, але пры гэтым прыкрывае ўсё рукой. Калі пытаешся, што пішуць, то чуецца адказ: «Мы робім усё, што трэба».

Прыходзіш да такога доктара, нібыта і ўсмешка ў яго на твары, але пры гэтым адчуванне, што трапіў да інквізітара. Прыгнятаючая атмасфера, пры гэтым з табой ніхто не гаворыць».

### «Сочаць, каб не загнуўся»

Паэт, кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў трапіў у СІЗА КДБ пасля збіцця. Кадр ягонага апухлага ад удару твару абляцеў паўсвету.

«З майго досведу стаўленне такое: жывы чалавек — добра, памёр — дык усе паміраюць. У «амерыканцы» была нейкая эпідэмія. Усе камеры душыліся ад кашлю. Прычым гэта была не прастуда. Але ніхто нічога не рабіў. Завядуць у медпункт ды дадуць аспірыну, вось і ўсё. Сачылі толькі, каб не загнуўся».

«У мяне было некалькі гіпертанічных крызаў, — кажа Някляеў. — Дык не ведалі, што рабіць. Выклікалі дактароў з цывільнага шпіталя. Калі ў наступны раз здарыўся крыз, то пабачылі, што будзе «жмурык», так яны на сваім жаргоне нябожчыкаў называюць. Забралі ўначы ў машыну ды павезлі некуды за горад. Гэта нават не шпіталь быў, а нейкая лабараторыя, дзе эксперыменты рабілі. Тры дні мяне там трымалі».

**«НН»: Умовы там былі людскімі?**

**УН:** Якія людскія? Два чалавекі ў масках пры мне сядзелі. Адзін ля галавы, другі — у нагах. Ва ўсім чорным, нібыта магілу прыйшлі мне капаць. А лячэнне? Нешта ўсё калолі і калолі. Шпігавалі мяне нечым, каб не памёр.

Уладзімір Някляеў згадвае анекдатычны выпадак, які адбыўся з ім у «амерыканцы». «Вырашылі, што мае крызы звязаныя з цяжкім псіхалагічным станам, вось і запрасілі псіхолага, каб ён мяне супакоіў. Чалавек гэты так расхваляваўся, што я яго больш супакойваў, чым ён мяне», — смяецца лідар «Гавары праўду».

«Ні пра што з дактарамі я не размаўляў, яны маўчалі. Ні прозвішчаў, ні імёнаў іх не ведаю. Толькі адзін быў прыстойны чалавек. Калі я спытаўся, як яго называць, то адказаў — Айбалітам. Ён выконваў свае функцыі вельмі прафесійна і па-людску. Такія прыстойныя людзі, незалежна ад сістэмы, ёсць і сярод ахоўнікаў, і следчых, і канваіраў. Былі такі і сярод медыкаў. Доктар Айбаліт».

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Доктар Ёзэф Менгеле**

Доктар-нацыст, які здзекаваўся з вязняў лагера Асвенцім. Ён асабіста выбіраў людзей для сваіх злачынных доследаў. Ахвярамі Менгеле сталі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Вязні называлі яго «Анёлам смерці». Пасля вайны Менгеле ўцёк у Паўднёвую Амерыку, дзе яго так і не змаглі высачыць.

# Ці будзе новая халодная вайна?

**Абама адмяніў** сустрэчу з Пуціным.



Прэзідэнт ЗША Барак Абама не будзе сустракацца з расейскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным у Маскве. Пра гэта паведамляюць заходнія агенцтвы са спасылкай на Белы дом.

Такая змена планаў амерыканскага лідара выкліканая — як пішуць аглядальнікі — па-першае, рашэннем Расеі даць прытулак Эдварду Сноўдэну, абвінавачанаму ў ЗША ў раскрыцці дзяржаўных сакрэтаў, па-другое, расчараваннем Злучаных Штатаў некаторымі крокамі Расеі — у прыватнасці, падтрымкай Асада.

Белы дом пры гэтым пацвердзіў, што Абама не адракаецца ўдзелу ў саміце «двaццаткі», які адбудзецца ў Пецярбургу ў пачатку верасня.

«На сёння адбываецца новая халодная вайна паміж ЗША і Расіяй — так кажуць. Аднак гэта не так, — піша нямецкая Die Welt. — Тое, што мы бачым, ёсць вяртаннем да палітыкі з пазіцыі сілы». Пагаджаюцца і іншыя аналітыкі, што пры ўсіх складанасцях у адносінах краін на цяперашні момант, наўрад ці гэта перарасце ў адкрытую варожасць, як падчас «халоднай вайны».

Абама ў сваю чаргу сказаў, што мае нармальныя кантакты з Пуціным, хоць з Мядзведзевым былі значна лепшыя. А яшчэ параўнаў прэзідэнта Расіі са школьнікам, які засумаваў на апошняй парце ў класе.

**ЛМ**

# «Кішачная палачка» точыць нутро «саюзных адносінаў»

**Масква шантажуе**
Беларусь новай гандлёвай вайной?

Бактэрыі кішачнай палачкі нібыта знойдзены ў ялавічыне і тавары з Беларусі. Пра гэта гаворыцца ў паведамленні Федэральнай службы Расіі па ветэрынарным і фітасанітарным кантролі.

«Пры лабараторных даследаваннях вяндліны, якая паступіла з ААТ «Барысаўскі мясакамбінат», у партыі ялавічыны, якая паступіла з ААТ «Мёрскі мясакамбінат», і ў партыі тавару, які паступіў з прадпрыемства ААТ «Савушкаў прадукт», выяўлены бактэрыі групы кішачнай палачкі, — паведамляецца ў прэс-рэлізе Рассельгаснагляду. — Прынята рашэнне праінфармаваць дзяржаўную ветэрынарную службу Беларусі аб выяўленых выніках для прыняцця мер па выпуску прадукцыі, якая адпавядае патрабаванням бяспекі Мытнага саюза».

У мінулым Рассьпажыўнагляд не раз выкарыстоўваўся ў палітычных мэтах. Пад яго забарону траплялі беларускае малако, малдаўскія віны, грузінская баржомі — прадукцыя найлепшай якасці, лепшая за расійскія аналагі. Пасля ўрэгулявання канфліктаў прадукцыя адразу пераставала быць няякаснай і вярталася на расійскі рынак. Нядаўна, як паведамлялася, Расія забараніла пастаўкі ўкраінскіх цукерак і шакаладу.




**Беларуская малочка ў Расіі карыстаецца вялікай папулярнасцю.**

Іншы канфлікт разгортваецца ў калійнай сферы. Пасля адмовы Беларусі прыватызаваць «Беларуськалій» на выгадных для расійскага капіталу ўмовах «Уралкалій» выйшаў з адзінай трэйдарскай кампаніі з «Беларуськаліем», а расійскі ўрад запатрабаваў ад Беларусі спыніць дэмпінг на рынку калійных угнаенняў унутры Расіі.

І вось цяпер «кішачная палачка» точыць нутро «саюзных адносінаў».

**Мікола Бугай**

# Малады зямляк Лукашэнкі ўзначаліў ДФР

41-гадовы намеснік дырэктара Дэпартамента фінансавых расследаванняў Ігар Маршалаў атрымаў павышэнне. Цяпер ён узначальвае гэты Дэпартамент і адначасова стаў намеснікам кіраўніка КДК.

Маршалаў — палкоўнік фінансавай міліцыі. Зямляк Лукашэнкі — са Шклова.



Скончыў Вольскае вышэйшае вайсковае вучылішча тылу (гэта ў Саратаўскай вобласці Расеі), а таксама — Беларускі камерцыйны ўніверсітэт кіравання (1998). Шмат гадоў адпрацаваў у апараце КДК у Гомельскай вобласці. Летась быў пераведзены ў Мінск, дзе кар'ера стала развівацца вельмі імкліва.

За час працы ў Камітэце атрымліваў медаль «За бездакорную службу» III ступені. «НН» месяц таму якраз прагназавала, што Маршалаў зойме гэтае крэсла.

Фактычна, Маршалаў узначаліў асобную спецслужбу. У падначаленне Дэпартамента ўваходзіць фінансавая міліцыя — пагроза для многіх чыноўнікаў і бізнэсмэнаў. Гэта структура, якой рэальна баяцца.

Звяртае на сябе ўвагу, што Маршалаў — выхаванец менавіта КДК, а не іншых сілавых ведамстваў, як ранейшыя дырэктары ДФР: Бараноўскі прадстаўляў МУС, а Грамовіч з Верамко — КДБ.

**Зміцер Панкавец**

**Цытата**



**«Немагчыма быць палітыкам у эміграцыі»**

Былы кандыдат на пасаду прэзідэнта, палітвязень і палітуцякач Алесь Міхалевіч у інтэрв'ю сайту БДГ зазначыў, што больш не будзе займацца палітыкай.

«Цяпер я ў пошуку таго, чым я б хацеў займацца. Думаю, мая дзейнасць будзе звязаная з бізнэсам. Я разлічваю выкарыстоўваць для гэтага сваё веданне моў — я валодаю польскай, чэшскай, нямецкай, ангельскай, украінскай, зразумела, беларускай і расейскай. Гэта можа быць цікава для многіх фірмаў, якія працуюць ва ўсім усходнееўрапейскім рэгіёне. Немагчыма быць палітыкам у эміграцыі. Ці, так скажам, вельмі складана быць палітыкам у эміграцыі. Я гэта выдатна разумею і не прэтэндую на тое, каб, будучы ў эміграцыі, заставацца ключавой палітычнай фігурай».

# Аўтара відэа пра МАЗ асудзілі на 7 сутак «за мацюкі»

..але насамрэч **не за іх**.

Руслан Мірзоеў, аўтар ролікаў «Хронікі завода» пра жыццё Мінскага аўтамабільнага завода, асуджаны на 7 сутак арышту.

Праваахоўныя органы зацікавіліся, ці праўдзівыя звесткі ў роліках Мірзоева, дзе завод МАЗ паўставаў у непрывабным святле. Той растлумачыў, што рабіў пастаноўкі — разам з сябрамі гралі на публіку. Рабілі гумарыстычнае шоу, якое потым выкладалі ў інтэрнэт. Дарэчы, ад адваката Мірзоеў адмовіўся.

У выніку суд вырашыў асудзіць яго... за нецэнзурную лаянку на сем сутак — у роліках гучалі мацюкі. Рашэнне выносіла суддзя Ала Булаш. Тая самая, што судзіла па справе «Плошчы» Вінаградава, Кіркевіча, Дразда, Пратасеню і Хамічэнку. Усе яны ў 2011 атрымалі працяглыя тэрміны.

Пытанне да вынесенага рашэння ёсць і ў гісторыі Мірзоева. Як было агучана ў эфіры канала АНТ, «тое, што галоўная прычына пакарання не мат, у пракуратуры не хаваюць».

Сітуацыю пракаментаваў намеснік начальніка ўпраўлення пракуратуры Беларусі Павел Радзівонаў, які заявіў, што паводзіны Мірзоева недапушчальныя. «Немагчыма заваяваць папулярнасць і аўтарытэт, маніпулюючы сацыяльнымі альбо грамадскімі праблемамі», — заявіў ён.



Дарэчы, Мірзоеў мусіў выйсці на працу — уладкаваўся ў кампанію па вытворчасці вокнаў.

**Ягор Марціновіч**

# У Мінску людзі здаюць свае кватэры на саматужных аўкцыёнах

Сярэдняя цана арэнды аднапакаёўкі дасягнула $400, двухпакаёўкі — $500.

Кватэрнае пытанне псуе мінчукоў, а любыя спробы чыноўнікаў навесці парадак на рынку нерухомасці толькі пагаршаюць сітуацыю. Участкі пад будаўніцтва новых шматкватэрных дамоў у сталіцы фактычна не выдаюцца, што прывяло да імклівага падаражання на другасным рынку. Забарона льготнікам здаваць атрыманае жыллё тым часам падняла і цэны на здымныя кватэры.

### Праца за жыллё

Арэнда даражэе на працягу ўсяго года. Паводле падлікаў сайта Realt.by, зімой і вясной здымныя кватэры даражэлі штомесяц на 3—4%. У ліпені тэмпы выраслі да 10% за месяц. Кожная кватэра — незалежна ад колькасці пакояў — стала каштаваць на $30 больш. І гэта яшчэ не пачаўся жнівень, калі ў Мінск на вучобу прыязджаюць новыя студэнты, якія ў канцы месяца будуць ахвотныя засяляцца за любыя грошы!

Аднапакаёвыя кватэры ў ліпені здаваліся ў сярэднім за $350. Калі дадаць плату за камунальныя паслугі, а таксама падатак на здачу кватэры — яго звычайна аплачвае арандатар — рэальная цана можа дасягнуць $400. Гэта дзве траціны ад сярэдняга заробку ў Мінску за вылікам падаходнага падатку.

За двухпакаёўкі цяпер даводзіцца плаціць каля $480, хоць яшчэ ў пачатку года стаўка рэдка калі перавышала $400. Ра-зам з кватрплатай рэальная цана, такім чынам, дасягае $550.

Трохпакаёўкі найчасцей здымаюць у складчыну. Даводзіцца плаціць па $600.

### Гарачы тэлефон

Знаёмая сям'я размясціла аб'яву на адным з папулярных сайтаў — $450 за двухпакаёўку з мінімальным наборам мэблі ў спальным раёне. Цана адпавядала сярэдняму ўзроўню на рынку. Шалёны попыт пераўзышоў усе чаканні.

Не прайшло і 15 хвілін, як раздаўся першы званок. Жыллё шукала маладая пара. «Уже выязджаем да вас. Вы толькі ні з кім іншым не ўмаўляйцеся!» — паведамілі яны. Прыехаўшы, прапанавалі: «Можа, давайце за $400? І тады хоць зараз засяляемся». Ад такога гандлю давялося адмовіцца — званкі ад ахвотных плаціць больш ішлі няспынна плынню.

Адзін з патэнцыйных кватарантаў у ўсяляякі выпадак удакладніў: цана ж $380, вы не перадумалі? Якія $380, калі ў аб'яве была напісаная іншая цана?! Аказваецца, тэлефонны нумар яму прадыктавалі ў адным з агенцтваў нерухомасці, якія штохвілінна маніторацць сайты. Даў аб'яву — апынуўся ў «эксклюзіўным спісе прапановаў», які рыэлтары пасля прадаюць сваім кліентам.

### Кот у мяшку

Наракканняў на працу рыэлтарскіх агенцтваў нямала. Скарыстаўшыся попытам на арэнднае жыллё, на рынку яны зарабляюць добрыя грошы, а вось якасць іх паслуг часцяком пакідае жадаць лепшага. У першую чаргу гэта датычыцць працы па папярэдняй аплаце. Агенцтва бярэ фіксаваную плату — звычайна каля 500 тысяч рублёў — і абяцае забяспечыць кліента спісам кватэр, свабодных для найму. Кватэры нібыта ёсць, вось толькі знаць іх складана. Многія аб'явы даўно састарэлі, іншыя ўзятыя з сайтаў, даступных усім ахвотным.

Міністэрства юстыцыі хоча забараніць рыэлтарскім агенцтвам браць грошы за «інфармацыйныя паслугі» такога кшталту. Гэтым спосабам чыноўнікі спадзяюцца перавесці рыэлтараў на аплату «па факце». Ёсць заключаная дамова паміж гаспадаром і арандатарам — будзе і ўзнагарода агенцтву. Але за такую ўгоду рыэлтары просяць істотна больш. Цэннік у агенцтвах вагаецца каля 2 мільёнаў рублёў.

...Апісаная вышэй двухпакаёўка была здадзеная за планаваныя $450 у той жа дзень. Хоць пры жаданні і нахабстве за яе можна было атрымаць і большыя грошы. Многія гаспадары не цураюцца праводзіць аўкцыёны — сабраць патэнцыйных наймальнікаў разам і спытаць, хто гатовы заплаціць больш.

**Дзяржаўнае арэнднае жыллё — не панацэя**

Чыноўнікі бачылі выратаванне сітуацыі ў дзяржаўным арэндным жыллі, таннейшым за камерцыйнае. Аднак і ў гэтай сітуацыі попыт істотна перавышае прапанову.

У райвыканкамах ляжаць дзясяткі заяваў ад ахвотных зняць кватэру за $200—300 (тарыф залежыць ад месца знаходжання жылля). Згодна з прэзідэнцкім указам, вырашаць, каму прапанаваць арэндную кватэру, трэба ў залежнасці ад часу знаходжання ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў. Калі вы не стаіце ў чарзе хаця б з сярэдзіны 1990-х, шанцаў на засяленне мінімум. Калі не маеце пастаяннай мінскай рэгістрацыі — іх няма зусім.

**Ягор Марціновіч**

# У Вільні адкрылася IKEA

Сетка мэблевых крамаў стала яшчэ бліжэй да Беларусі.

14 жніўня ў сталіцы Літвы запрацавала першая ў краіне крама IKEA. За час свайго існавання сусветна вядомая сетка стала сімвалам простага дызайну і экалагічнасці ў рэалізацыі задумы.

Сотні чаўнакоў возяць прадукцыю IKEA з суседніх Варшавы (там танней) і Масквы (няма абмежаванняў па вазе і габарытах). Нацэнка ў прадаўцоў звычайна складае 15%.

Цяпер набыць тавары для дома можна і ў Літве. Абмежаванні на мяжы ранейшыя. Вага недзялімага прадмета не павінна перавышаць 35 кг, а агульная вага асабістых рэчаў — складаць не больш за 50 кг.

Многія наракаюць на прымітыўнасць рэчаў з IKEA, іншыя, наадварот, бачаць у гэтым разынку. Напрыклад, такая мэбля лёгка збіраецца і разбіраецца.

У Беларусі ніводнай крамы з гэтай сеткі няма, хоць перамовы пра гэта вядуцца ўжо не першы год. У выпадку прыходу ў нашу краіну IKEA моцна падкасіла б пазіцыі мясцовых вытворцаў.

На тэрыторыі Беларусі вытворчасць тавараў для шведска-галандскай сеткі ёсць, але прадукцыя прадаецца выключна за мяжу.

**ЯМ**

**Шведска-галандскія традыцыі**

IKEA — сусветна вядомая сетка крамаў па продажы мэблі і тавараў для дома, заснаваная ў Швецыі ў 1943. Галоўны офіс цяпер знаходзіцца ў Нідэрландах. Яму падпарадкоўваецца сотні крамаў у больш чым 40 краінах свету. Чысты прыбытак кампаніі летась склаў $3,2 мільярда. IKEA — найбуйнейшы ў свеце спажывец драўніны.

**Журнальны столік 90х55 см каштуе каля 210 тысяч рублёў...**

**...а святлодыёдная маленькая USB-лямпа — 30 тысяч.**

**Сціплы мільярдэр**

Заснавальнік IKEA — швед Інгвар Кампрад. Цяпер ён уваходзіць у пяцёрку найбагацейшых людзей свету, ягонае багацце ацэньваецца ў $43 мільярды. Ён выклікае замілаванне сваім аскетычным ладам жыцця. Лётае толькі ў эканом-класе, ездзіць на старой машыне. І пры гэтым актыўна займаецца дабрачыннасцю.

**У Літве яшчэ і H&M**

А 24 жніўня ў Вільні адкрыецца першая шведская крама H&M. Яна зойме 3500 м² у гандлёвым цэнтры «Акропаліс». H&M — гэта найбуйнейшая ў Еўропе сетка па гандлі адзеннем.

**Ложак для дваіх (без матраца) прадаецца за 1,3 мільёна рублёў.**

## Сцісла

**Сонечная энергія ў Смаргоні**

Для першай у краіне магутнай сонечнай электрастанцыі выдзелены ўчастак у Смаргоні. Агульная магутнасць складзе 17 МВт. Інвестар, кампанія «Экалагічная энергія», укладзе ў праект $42 мільёны. Першую чаргу будаўніцтва плануюць скончыць да чэрвеня 2015, цалкам электрастанцыя мае запрацаваць да ліпеня 2018. Але ці спраўдзяцца планы? Шырока разрэкламаваны яшчэ 10 гадоў таму праект пра стварэнне ветравой электрастанцыі так і застаўся на паперы.

**Льготнае крэдытаванне абмяжоўваецца**

«Белаграпрамбанк», апошні з дзяржаўных банкаў, які прымаў заяўкі на льготныя крэдыты для «чаргавікоў», спыніў льготнае крэдытаванне жылля ў сельскай мясцовасці. Цяпер самыя танныя крэдыты складаюць 28,5%.

**«Карона» Тапузідзіса разрастаецца**

У сталічным раёне Уручча адкрыўся новы гіпермаркет «Карона». Ён знаходзіцца на скрыжаванні МКАД і праспекта Незалежнасці. Сярод ноу-хау «Кароны-Уручча» продаж цыгарэт не на касах, а ў асобнай крамцы. Гэта трэція «Карона» Паўла Тапузідзіса ў Мінску. Агулам жа ў сталіцы налічваецца 12 гіпермаркетаў.

**ЯМ**

# Падарожжа ў Вільню ўскладнілася

Каб першымі **прыйсці на пашпартны кантроль**, беларусы бягуць, штурхаюцца, не саступаюць месца.

Цягнік Мінск — Вільня ад мая пачаў курсіраваць па новых правілах. Цяпер абавязковы памежны і мытны кантроль адбываецца не падчас стаянкі ў Кяне, а ўласна ў самой Вільні. Дзякуючы гэтаму час дарогі скараціўся з 4 гадзін да 2,5.

Але тут якраз самае цікавае. Адразу, як цягнік перасякае мяжу, людзі з першых вагонаў падымаюцца і кудысьці сыходзяць. Па адным, групкамі па двары чалавекі, хаця да Вільні ехаць яшчэ паўгадзіны. Усё становіцца на свае месцы на вакзале. Цягнік прыйшоў на самую дальнюю платформу, якая агароджана плотам і мае роўна адзін падземны пераход, у які, абганяючы адзін аднаго, кінуліся ўсе 300 чалавек, што прыехалі цягніком.

У Вільні ўтвараецца вялікая чарга да кантралёраў. Хто паспеў першым, у таго час дарогі і зойме 2,5 гадзіны, хто спазніўся — тыя самыя 4.

Вось і змагаюцца беларусы за месца. Спрабуюць абагнаць адзін аднаго, штурхаюцца, абы хутчэй прайсці кантроль. Людзі з вялікімі сумкамі, якія спяшаюцца на самалёты, трапляюць у канец чаргі.

По прынцыпе праверкі ў Вільні з Мінска ідуць два цягнікі — ранішні (07.40) і вечаровы (18.50). Астатнія цягнікі, а таксама тыя, што ідуць з Расіі, маюць дадатковыя прыпынкі па дарозе, і час у дарозе займае каля 4 гадзін.

Сведкам гэтага стаў уласнік партала tut.by Юрый Зісер.

«Стала сорамна за натоўп беларусаў. На Захадзе такое дзікае відовішча ўявіць немагчыма», — напісаў Зісер. Пры гэтым прызнаўся, што сам даўся ў бег, калі адчуў перспектыву стаяння ў канцы чаргі.

«Сітуацыя ненармальная. У сярэдзіне мая я ехаў вечаровым цягніком і запытаўся ў літоўскага памежніка: «Дык што, як увядуць новы парадак, з'явіцца чэргі?» — «Канечне, з'явяцца, — упэўнена адказаў той. — Вы ж падлічыце: чатыры прапускныя пункты на цягнік, у якім як мінімум 200 чалавек». Г.зн. нават шараговыя выканаўцы, на якіх не было адказнасці за бюджэтаванне праекта, падлікпрагназаванне і г.д., усё разумелі. Сітуацыя нялюдская, і паводзіцца па-людску ў ёй немагчыма», — напісаў публіцыст, намеснік галоўнага рэдактара «Белгазеты» Віктар Марціновіч.

Таксама змяніліся самі цягнікі. Замест звыклага пасажырскага, падаюць дызель рыжскага завода (што праўда, новы). Салон вагона адрозніваецца ад класічнай электрычкі тым, што крэслы ў ім мяккія і з'явіліся электронныя табло. Аднак галоўная праблема электрычкі захавалася — на кожную лаўку прадаецца тры квіткі.



Людзі з вялікімі сумкамі апынаюцца пры канцы чаргі на пашпартны кантроль.

TUT.BY

У тамбурах нельга курыць, хоць раней было можна — з іншага боку — можна і пацярпець. А вось адсутнасць кавы і чаю раздражняе болей — з улікам таго, што цягнік адпраўляецца ранкам, а паспаць у ім усё адно не ўдасца, падбадзёрыцца кавай вельмі дарэчы. У наяўнасці толькі пячэнне і мінералка.

Вільня — важны для беларусаў горад. Тут выдаваў свае кнігі Францішак Скарына, тут пакаралі смерцю Кастуся Каліноўскага, тут выходзіла «Наша Ніва», Сёння беларусы ездзяць у Вільню, каб схадзіць у недарагія гандлёвыя цэнтры, каб паляцець лаўкостамі на адпачынак, ці каб паехаць з Вільні на балтыйскае ўзбярэжжа. Лёс беларусаў і Вільні па-ранейшаму цесна пераплятаюцца і ў XXI стагоддзі.

**Мікалай Левертаў**

# Прадзюсар Дзмітрый Баранаў памёр у 38 гадоў

Ён запомніцца як чалавек, **датычны да фальсіфікавання** вынікаў «Еўрафэсту».

По апісанні відавочцаў, Баранаў памёр проста ў машыне, якую паспеў прыпаркаваць. У прадзюсара, які апошні год працаваў у цэнтры «Спамаш» алігарха Аляксандра Шакуціна, спынілася сэрца.

### Скандал вакол «Еўрафэсту»

Найбольш гучна імя Дзмітрыя Баранава прагучала падчас скандалу, звязанага з фальсіфікацыяй вынікаў «Еўрафэсту». Па афіцыйных выніках галасавання на «Еўрабачанне» ў Баку мусіла адправіцца Алёна Ланская, а не Litesound. У справу ўмяшаўся Аляксандр Лукашэнка. Фальсіфікатарам назвалі менавіта супрацоўніка тэлебачання Дзмітрыя Баранава, якога пазней звольнілі з працы.

### Дырэктар «Спамаш»

Цікава, што ўладкаваўся Баранаў не абы-куды, а ў прадзюсарскі цэнтр «Спамаш». Той самы, які стаяў за Алёнай Ланской на «Еўрафэсце». У выніку на наступнае «Еўрабачанне», што праходзіла ў Мальмё, адправілася ўсё ж Ланская, а Баранаў паехаў разам з ёй у якасці кіраўніка дэлегацыі. На выступ Ланской выдаткавалі аж мільён даляраў, аднак не дапамагло — прадстаўніца Беларусі стала толькі шаснаццатай.

### Стваральнік першага рэаліці-шоу

Дзмітрый Баранаў мае дычыненне да стварэння «Еўрафэсту», «Зорнага дыліжанса» і іншых музычных праектаў на розных каналах. Пры гэтым «Зорны дыліжанс» меў стабільны поспех сярод гледачоў — на галасаванне падчас фінальнага канцэрта праекта прыйшло 50 тысяч смс. Пры гэтым «Дыліжанс» стаўся першым беларускім рэаліці-шоу, што праўда, зроблены па ўзоры American Idol і «Фабрыкі зорак».

Апошнім часам Дзмітрый Баранаў вёў некалькі паралельных праектаў, у прыватнасці, працягваў супрацу з Алёнай Ланской, і таксама рыхтаваў канцэрт кампазітара Леаніда Шырына.

**Юрась Ускоў**


Дзмітрый Баранаў і Алёна Ланская.

In memoriam

# Васіль Пяскоў

Ва ўзросце 83 гадоў памёр расійскі журналіст Васіль Пяскоў. На працягу апошніх 50 гадоў ён пісаў у «Комсомольской правде» аб прыродзе. Яго тэксты памятаюць людзі розных пакаленняў.

У канцы 1960-х — пачатку 1970-х я рабіў у «Знамени юности» паласу аб прыродзе і яе ахове «Ивушка». Выпуск быў папулярны, але нечага ў ім не ставала, і я не вельмі разумеў, чаго менавіта. Знаходзячыся аднойчы ў камандзіроўцы ў Маскве, я папрасіў Пяскова аб сустрэчы. Ён уважліва выслухаў мяне, прагледзеў некалькі прывезеных нумароў і спытаўся: «Вы сапраўды думаеце, што прырода гіне ад злой волі нейкіх нядобрых людзей? Пішыце, справа патрэбная, але безназейная. Пакуль будзе існаваць гэтая сістэма. А існаваць яна будзе, пакуль не вычарпае ўвесь экарэсурс...»



Гляджу сёння на яго апошнія фатаграфіі, і мяне не пакідае адчуванне, што, калі б сустрэў яго дзе-небудзь на вуліцы, пазнаў бы і праз паўсотні гадоў. Штосьці было незнікаючае ў яго выглядзе, не толькі кепка ...

**Сяргей Ваганаў**

# Доктар з Гомеля сабраў неабходныя на лячэнне грошы

27-гадоваму доктару-траўматолагу філіяла № 8 Гомельскай гарадской паліклінікі Сяргею Малашэнку, які заразіўся на працы гепатытам С (глядзі «НН» №29 за 2013), сабралі неабходную суму на лячэнне.

Пра гэта Сяргей паведаміў на сваім сайце. Ад 6 жніўня да 9 жніўня было сабрана 9 987 даляраў. Неабходную рэшту ў некалькі тысяч даляраў дадасць праваслаўная грамада ў Гомелі.

Сяргей Малашэнка з гэтай нагоды звярнуўся з падзякай на сваім сайце да неабыякавых, зазначыўшы, што збор сродкаў скончаны: «Дзякуючы вам неабходную суму ўдалося сабраць! Хачу шчыра падзякаваць усім за дапамогу і вашу падтрымку!

Усім незнаёмым людзям, якія не прайшлі міма. За фінансавую дапамогу і за ўсе вашыя цёплыя і добрыя словы ў каментарах, лістах і тэлефанаваннях.

Маім сябрам і знаёмым, для якіх было неабыякава, што са мной адбываецца. Сваім калегам і адміністрацыі маёй паліклінікі за аператыўную дапамогу, салідарнасць і разуменне. Медперсаналу інфекцыйнай бальніцы за прафесіяналізм і чулыя адносіны. Наталлі Журбіной за неацэнную дапамогу ў зборы сродкаў. Маім пацыентам за тое, што падтрымалі ў цяжкую хвіліну і за іх шчырае жаданне дапамагчы. Хлопцам і дзяўчатам з праваслаўнай грамады і маім самым блізкім людзям, якія ўвесь гэты час былі побач, падтрымлівалі, дапамагалі, і працягваюць гэта рабіць да гэтага часу».

**АГ**

# Наркамана затрымалі за забойства сябра Цэнтрвыбаркама

Жыццё жанчыны забраў **суседскі сын.**

Святлану Хіневіч, члена Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў, знайшлі мёртвай 4 жніўня ва ўласнай кватэры на вуліцы Жукоўскага ў Мінску. Забойства асобы такога рангу ў Беларусі даўно не было.

Хто ж забойца? Нягледзячы на высокую пасаду, Хіневіч не мела вялікага ўплыву на сітуацыю ў краіне. Дый у камісіі яна працавала менш за два гады. Таму наўрад ці хто меў на яе такую крыўду праз выбары. Разам з тым яна з'яўлялася начальнікам аддзела па кадравай працы прадпрыемства «Мінск Крышталь». Пасада, на якой хутчэй знойдуцца рэальныя ворагі.

У Следчым камітэце паспяшаліся запэўніць: забойства не звязана з прафесійнай і грамадскай дзейнасцю. І носіць чыста бытавы характар. А праз дзень расказалі пра падазраванага. Гэта сусед Святланы Хіневіч, 35-гадовы наркаман. Яго знайшлі з мноствам ранаў. Следчыя мяркуюць, што ён хацеў сябе забіць.

Радыё «Свабода» са спасылкай на знаёмую забітай паведамляе, што затрыманы — не проста сусед, але і сын даўняй сяброўкі Хіневіч, якая нават хрысціла дзіця Святланы. Магчыма, ён прыйшоў да жанчыны падчас «ломкі», калі і здарыўся канфлікт. А калі ўсвядоміў свой учынак, парэзаў і сябе.

Ад раненняў ён страціў шмат крыві. Некалькі дзён з ім не маглі пагаварыць следчыя. Дапыталі толькі праз пяць дзён, калі прыйшоў у прытомнасць.

**Кастусь Матушыч**

**Святлана Хіневіч**

нарадзілася ў 1959 у Мінску. Скончыла БДУ. У снежні 2011 была выбрана членам Цэнтрвыбаркама. На той момант яна была начальнікам упраўлення кадраў і ідэалагічнай працы Галоўнага гаспадарчага ўпраўлення Кіраўніцтва справаў прэзідэнта. У апошні час працавала на «Мінск Крышталі». Разведзеная. Мае сына і дачку, якая жыве ў Балгарыі.



Святлана Хіневіч з унучкай.

## Вышук



ГУУС Мінгарвыканкама расшуквае **Новікава Аляксандра Васільевіча**, 1954 года нараджэння. Ён падазраваецца ў замаху на злачынства і кантрабандзе. Ён пакутуе на хранічнае захворванне сардэчна-сасудзістай сістэмы, у 2012 перанёс інсульт, часткова паралізаваныя левыя рука і нага. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефануйце на: (044) 741-44-73, (017) 218-71-08.



Расшукваецца **Палонікава Тамара Іванаўна**, 1973 года нараджэння. Яе бачылі апошні раз 4 жніўня каля станцыі метро «Магілёўская» ў Мінску. Прыкметы: рост 155—160 см, валасы цёмна-каштанавая, вочы блакітныя. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, тэлефануйце ў ПВА «Анёл» на (033) 666-68-56.



**Ждановіч Міхаіл Аляксандравіч**, 1979 года нараджэння, вечарам 8 жніўня пайшоў з дому і не вярнуўся. Магчыма, ён з'ехаў на сваім аўтамабілі «Фальксваген-Пасат B6» цёмна-сіняга колеру (дзяржнумар 0450 МА-7). Прыкметы: рост 182 см, вочы блакітныя, валасы русыя. Хто валодае інфармацыяй пра зніклага, тэлефануйце ў ПВА «Анёл» на (033) 666-68-56.

# Галандзец забіў жонку-беларуску

**Шэсць гадоў** цягнулася следства.

Роберт Ян Брокель адзінаццаць гадоў правядзе за кратамі за наўмыснае забойства сваёй жонкі Кацярыны Ханяк.

Нідэрландзец і 20-гадовая беларуска пазнаёміліся ў 2001 у бельгійскім Антверпене. Мясцовая прэса сцвярджае, што Кацярына працавала ў публічным доме. А Роберт быў яе кліентам. Славянка яго так зачапіла, што прапанаваў ажаніцца.

Бацькі Кацярыны звярнуліся ў мінскую міліцыю ў ліпені 2007. Дачка перастала выходзіць на сувязь. Напісалі заяву пра знікненне. Яны сцвярджалі, што дзяўчына выехала ў Бельгію на адпачынак. Праз паўгода Кацярыну знайшлі нежывой у доме ў бельгійскай камуне Барле-Хетаг, дзе яна жыла з мужам. Сабакі адшукалі жаночыя парэшткі ў скрыні ў пакоі чатырохгадовай дачкі. Яны былі залітыя цэментам. Экспертыза пацвердзіла, што забітая — Кацярына Ханяк. Толькі так і не вызначылі прычыну смерці.

Роберта арыштавалі толькі ў кастрычніку 2010. Але ён адмаўляе віну. Брокель фігураваў яшчэ ў дзвюх крымінальных справах. Адна тычылася распаўсюду дзіцячай парнаграфіі: у яго знайшлі фотаздымкі аголеных дзяцей. Яго прызналі вінаватым. А па справе аб правозе какаіну апраўдалі.

Непаўналетняя дачка Кацярыны і Роберта Ніколь застаецца ў бацькоў Брокеля.

**Паводле БелаПАН**



# Узяўся дапамагчы з рамонтам: маці забіў, дачку згвалтаваў

**Былы зэк** з Барысава не стаў на шлях выпраўлення.

32-гадовага Анатоля папрасілі дапамагчы з рамонтам у кватэры. Ён раней хоць і сядзеў за згвалтаванне і разбой, але ад знаёмца сям'і ліхога ніхто не чакаў. Што справакавала мужчыну на гвалт, няясна. Але праз нейкі канфлікт ён жорстка расправіўся з маці і яе дачкой.

Як паведаміла прадстаўніца Следчага камітэта па Мінскай вобласці Тацяна Беланог, гаспадыню-пенсіянерку ён зарэзаў, скраў 9,6 мільёна рублёў. А напаследак згвалтаваў яе 31-гадовую дачку.

Тры дні яго шукалі. І знайшлі 10 жніўня на беразе возера ў Аршанскім раёне. Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары. А на яго завялі тры крымінальныя справы: за забойства з асаблівай жорсткасцю, згвалтаванне і разбой. Яму пагражае смяротнае пакаранне.

**Сяргей Макарэвіч**

# За крытыку міліцыянтаў аштрафавалі на 10 мільёнаў

Мінчука **знайшлі за камент** у інтэрнэце.

Мінчук на адным з форумаў у інтэрнэце выказаўся пра супрацоўнікаў Фрунзенскага РУУСа сталіцы, якія прыязджалі па ягоным выкліку. Раскрытыкаваў іх і папікнуў у неахайным выглядзе.

«Адчуваючы сваю беспакаранасць і ўсёдазволенасць у віртуальнай прасторы, фарумчанін не саромеўся ў выразах, прыніжаючы гонар і годнасць супрацоўнікаў унутраных спраў», — паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі МУС. Праводзілася праверка, якая словы каментатара не пацвердзіла.

Міліцыянты знайшлі крыўдзіцеля. Ім аказаўся загадчык літаратурнай часткай мінскага Новага драматычнага тэатра. Яму ўспомнілі таксама нядобрыя каментары пра забітага пры выкананні сваіх абавязкаў прапаршчыка міліцыі.

У выніку на мінчука завялі дзве адміністрацыйныя справы і асудзілі за абразу ўдавы забітага прапаршчыка і міліцыянтаў, якія да яго прыязджалі. Вінаватым сябе ён не прызнаў. Але штраф давядзецца выплаціць: па 5 мільёнаў рублёў па кожнай справе.

**КМ**

## Сціпла

### Падпаліў сябе

9 жніўня ў цэнтры Мінска 24-гадовы хлопец абліўся бензінам і падпаліў сябе. Такая папярэдняя версія следчых. Труп знайшлі прахожыя на пешаходнай дарожцы ля Гарбатага моста на Свіслачы, недалёка ад стэлы. Прычына такога ўчынку жыхара в. Цнянка высвятляецца.

### Пацярпелая ў аварыі дзяўчынка ачуняла

Чатырохгадовая беларуска, якая з бацькамі 5 жніўня трапіла ў аварыю ў Польшчы, апрытомнела. Пасля здарэння лекары ўвялі яе ў штучную кому, каб павялічыць шанцы на выздараўленне. Цяпер ёй лепш. Мама і тата дзяўчынкі таксама знаходзяцца ў польскіх бальніцах. Кіроўцу, які спраўкакаваў аварыю пад Чанстаховай, яшчэ шукаюць.

### Трымала маці на ланцугу

У Іванаўскім раёне 28-гадовая дачка хацела прымусіць маці кінуць піць. І навязала жанчыну на ланцуг, каб тая не выходзіла з двара. Калі ў адзін з дзён 61-гадовай кабеце ўдалося збегчы, яна звярнулася да суседзяў. Яны і напісалі заяву ў Следчы камітэт. Вядзецца праверка.

### Падкінулі немаўля

Хлопчыка 5—6 дзён ад нараджэння падкінулі жыхару Калінкавіч. Дзіцятка ён знайшоў пад дзвярыма свайго дома ўначы. Пакуль вядома, што маці нарадзіла яго ў хатніх умовах. Яе асоба высвятляецца. А немаўля забралі ў радзільню.

### Забіраў пенсію зніклага бацькі

Пакуль ішлі пошукі зніклага 85-гадовага гамельчука, яго сын атрымліваў за яго пенсію. За паўгода, пакуль яго не выкрылі, назбіраў 15 мільёнаў. Сыну пагражае рэальны тэрмін за махлярства. А бацьку яго так і не знайшлі.

### Згарэла разам з домам

У вёсцы Іванаўка Бабруйскага раёна выбухнуў газ у хаце. Загінула гаспадыня — маці чатырох дзяцей. Дом цалкам разбураны. Дзеці не пацярпелі. У той час яны жылі ў сацыяльным прытулку.

**КМ**

# Застаўся толькі «Мінск»

Еўракубкавыя гульні заўсёды вылучае **непрадказальнасць** вынікаў.



Сербскі легіянер «Мінска» Мілаш Рніч забіў «Сэнт-Джонстану» адзіны гол.

Тры вядучыя футбольныя каманды Беларусі — БАТЭ, «Шахцёр» і «Дынама» — ужо развіталіся з міжнароднымі стартамі. Шанцы на еўракубкавую восень застаюцца толькі ў «Мінска», які невядома нават, ці трапіць у першую «шасцёрку» нацыянальнага чэмпіянату.

Да групавога турніру сталічным футбалістам засталося зрабіць апошні крок. Перадапошні быў у Шатландыі.

У невялікім гарадку Перт (радзіма Томаса Дзьюара — чалавека, дзякуючы якому алкагольны напой віскі стаў пазнавальны ва ўсім свеце) беларусы ў серыі пасляматчавых пенальці перамаглі мясцовы «Сэнт-Джонстан».

Асноўны ж час і дадатковы скончыўся з лікам 1:0 на карысць «Мінска» (роўна з такім лікам быў пройгрыш дома). Падчас жа пенальці ва ўсёй красе сябе паказаў брамнік Уладзімір Бушма.

Лёсаванне звяло «Мінск» у наступным раўндзе з бельгійскім «Стандардам». Жэрабя не самае лёгкае, але і не самае складанае. Гэтая каманда 10 разоў выйгравала нацыянальнае першынство. У яе складзе няма сусветных зорак, затое ёсць Георгій Жукаў. Вядома, не славуты палкаводзец, а бельгійскі футбаліст казахскага паходжання.

**Зміцер Панкавец**



**Фотафакт**

### Яркі метэор патоку Персеіды над касцёлам у Багушэвічах

Гэты здымак я зрабіў уночы на 12 жніўня. Ахвотным паназіраць за знічкамі лепш выбірацца далей ад горада і, па магчымасці, класціся на зямлю, каб бачыць усё неба. Не варта спадзявацца, што ўбачыце шмат метэораў з балкона ці ў адчыненае акно, бо ў такім выпадку вы бачыце толькі малую частку неба. Але калі выканаць усе ўмовы, то жаданні загадваць можна будзе часцей чым раз на хвіліну. Бо ў ночы Персеідаў на небе можна назіраць больш за 60 знічак на гадзіну.

**Віктар Малышчыц**

# На Гродзеншчыне будуць разводзіць муфлонаў



30 муфлонаў неўзабаве з'явяцца ў лесапаляўнічай гаспадарцы Астравецкага лясгаса. Конкурс на іх закупку ўжо прайшоў, і зараз ідуць работы па пашырэнні і рамонце вальераў.

Пакуль у Беларусі гэтых жывёл ніхто не разводзіць, ды і ў дзікай прыродзе нашай краіны яны не сустракаюцца. Яны распаўсюджаныя ў Арменіі, на поўначы Ірака, у Іране, на астравах Кіпр, Корсіка і Сардзінія. Муфлон — гэта дзікі від барана — добра пачуваецца як у гарах, так і на стэпавых пашах.

Паляванне на муфлонаў вядзецца здаўна. Галоўны трафей — вялікія спіральна закручаныя рогі. Праз некалькі гадоў у лясгасе плануюць адкрыць на іх паляванне.

**grodnonews.by**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Аднойчы ў Вільні

Пачалася гэта гісторыя з таго, што пляменнік Генадзь прывёз мне з Поўначы, дзе зарабляў мастаком, скуру аленя, а жонцы — мяккія, упрыгожаныя арнаментам, утульныя пімы.

Шыкоўны падарунак па тым часе, каб не слёзы з пачырванелых вачэй дачушкі, апухлы нос і надрыўны кашаль — ужо праз паўгадзіны поўсць лётала па ўсёй аднапакаёўцы. Што рабіць? Ужо і не памятаю, каму першаму (мне ці жонцы) прыйшла ў галаву думка паехаць у Вільню на таўкучку.

Трэба сказаць, што ў Вільні, як і наогул у Літве, мы бывалі неаднаразова, але па зусім іншых, не такіх, умоўна кажучы, нізкіх матывах. Да таго ж, ні я, ні жонка ніколі нічога не прадавалі.

Я патэлефанаваў Віцю: «Ты калі-небудзь прадаваў на таўкучцы скуру паўночнага аленя?» Мне здавалася, што хто-хто, але Віця з ягоным насычаным жыццёвым вопытам...

Карацей кажучы, на наступны дзень мы ўжо імчалі на бацькоўскім «Масквічыку» па сухім, выбеленым першымі лістападаўскімі маразамі, асфальце...

...Даімчалі да Смаргоні і вырашылі заначаваць. Ведалі, што ў Вільні патрапіць у гатэль амаль немагчыма, а на таўкучцы лепш апынуцца зранку.

Зранку немагчыма было не тое што ехаць, але нават дайсці да машыны — вільготны снег, што падаў усю ноч, ад раніцы быў укатаны ў суцэльную галалёдзіцу. Сунуліся да Вільні гадзіны тры.

Віленская таўкучка месцілася побач са звычайным рынкам па вуліцы Дзяржынскага, каго ж яшчэ. Што гэта — віленская таўкучка пачатку 70-х? Гэта гразь і неймаверны натоўп, што гэтую гразь месіць.

Віця прытуліўся да ўскрайку, разгарнуў скуру, падвесіў яе на адну руку, на другую — пімы... А я пайшоў уздоўж гандляроў аўтазапчасткамі шукаць дадатковы, бы барадаўка, паваротнік, што ўжо праз паўгадзіны быў акуратна зняты з крыла. Я ведаў, што большасць запчастак здабывалася менавіта з абрабаваных аўто, у тым ліку з тых, што прыехалі на таўкучку. Хто шукае, той знойдзе... Знайшоў!..

### «Ты калі-небудзь прадаваў на таўкучцы скуру паўночнага аленя?»



На дзіва, і скура з пімамі прадаліся даволі хутка, нават заставаўся час, каб прасадзіць набытыя 80 рублёў у славутай «Нерынзе». Ого, 80 рублёў! Інжынер зарабляў 120...

Але час заставаўся не для мяне — правае задняе (як цяпер памятаю) кола было наскрозь узрэзана тоўстым шклом. І пакуль я шукаў, дзе завулканізаваць кола, на Вільню сышла апраметная цемра... Пачаць шукаць гатэль вырашылі з «Гінтараса», што месціўся побач з вакзалам. Дзе там! Добра хоць далі тэлефон. І тут я ўспомніў пра Леанарда. Былы палкоўнік СА Леанард узначальваў усю экскурсійна-турыстычную гаспадарку Вільні.

Са сваім братам Леанардам мяне пазнаёміў мінскі сябар Жэня, калі мы ездзілі з ім у піўны рэстаран, таксама першы ў СССР. Недзе а палове на адзінаццатую даведка дала нумар, я нагадаў Леанарду пра наша знаёмства, распавёў пра віленскія прыгоды і папрасіў дапамагчы з гатэлем. «Навошта? — пачулася ў слухаўцы. — У мяне вялікая кватэра...»

Праз гадзіну пошукаў мы апынуліся ў новым мікрараёне на ўскрайку Вільні, ля доўгага дома, за якім пачынаўся лес і ўгадвалася рака... Адчыніліся дзверы. На парозе стаяў Жэня. Толькі вельмі стары... Хвіліны ўзаемных тлумачэнняў, хто чаго не дачуў і хто каго з кім пабльтаў, і вось ужо мы смокчам нейкі салодкі лікёр і ямо смачны літоўскі сыр. Адно ведаў я пра Дамініка, бацьку Жэні — стары бальшавік, браў Зімні... Але ён маўчыць, а Ядвіга, мачаха сябра, распытвае пра Жэню і ўсё кідае на незнаёмцаў насцярожаны позірк...

Сярод ночы мяне распіхаў Віця: «Тваю машыну раздзяваюць!» Якую маю? Бацькаву! Я кінуўся да акна. Ваколаўто, пад ліхтаром, штоўадзіноце асвятляў маўклівую завіруху, завіхалася цёмная постаць... Пакуль нацягвалі боты, пакуль адчынялі безліч запораў і ланцужкоў... Карацей, той самы злашчасны паваротнік выдраны з мясам... І што, праз тыдзень зноў на таўкучку? «Слухай, — гаворыць Віця, — а давай у машыне даспім...» — «Змерзнем...» — «А коўдры навошта? Хадзем за коўдрамі...» Пачуўся нейкі грукат, і ў калідор, кульгаючы на драўляным пратэзе, увалілася мачаха Жэні, чамусьці са свечкай. Дасюль чую той немы лямант з націскам на другім скла-дзе: «Жулікі!» А што б вы падумалі, убачыўшы незнаёмцаў, што выносяць пасярод ночы вашы пярыны ды падушкі?

А раніцай во смеху было!..

Паснедалі кавай з літоўскім сырам і паехалі дадому. Ехалі восем гадзін па суцэльным лёдзе. Але што той лёд, што тыя восем гадзін, калі адлегласць да іх вымяраецца ўжо нават не гадамі — стагоддзем?!

**P.S.** Ледзь не забыўся.

Жэня ў якасці Яўгена Будзінаса напісаў многа нарысаў, некалькі аповесцяў, стварыў «Дудуткі» і заўчасна памёр.

Віця стаўся адным з найлепшых беларускіх пісьменнікаў Віктарам Казько. Заўтра, 15 жніўня, другі з ягоных двух дзён нараджэння. Віншуйце!

Ну, а мне час пакінуў гэты ўспамін, адзін са шматлікіх. А вы ўсё «Акропаліс»... «Акропаліс»...

# Горкі: год пасля дня «Д»

**Як жыве** сталіца «Дажынак-2012».

Карэспандэнт «НН» паглядзеў, што засталося ў Горках ад 120 мільёнаў даляраў, выдаткаваных на правядзенне аднаго з дзяржаўных рытуалаў.

Калі прыбываеш у Горкі, нічога не сведчыць аб тым, што ў любую секунду цябе паглынуць дзіркі ў тратуарах ці заб'е пахіленая ліхтарня, што нахілілася. Наадварот, горацкая чыгуначная станцыя — яна называецца «Пагодзіна» — сустракае ўтульным будынкам вакзала з карцінамі на сценах. Прывакзальная плошча зіхаціць чысцінёю, а шматпакутная тут плітка роўная, пасля года эксплуатацыі на ёй няма «хваляў».

Ходнікі доўгай Вакзальнай вуліцы, якая вядзе ў цэнтр, адгароджаныя ад праезнай часткі высокімі дрэвамі. Ля кожнай лесвіцы пабудаваны пандус. Відаць, яны разлічаныя на маладых бацькоў з каляскамі, для інвалідаў яны завузкія. Платы ўздоўж вуліцы тыповыя, пафарбаваныя ў бэжавы колер — адразу зразумела, што іх паставілі адмыслова да «Дажынак».

Усё выглядае якасна. Аднак калі на скрыжаванні паглядзець убок, то кідаецца ў вочы, што «дзяржаўны» плот сканчаецца праз некалькі метраў. Як і новая дзяржаўная дарога.



У Горках шмат чаго не паспелі зрабіць да «Дажынак», а потым ужо стала не трэба. На фота: недабудаваныя ходнікі на вуліцы Заслонава.

У Горках прыгожа, але варта толькі збочыць…

Новы асфальт абрынуўся вакол люка якраз насупраць уваходу ў амфітэатр — «эпіцэнтр» свята працаўнікоў сяла

### «Фатаграфуй, фатаграфуй, дзіцятка!»

У Горках пасля свята працаўнікоў сяла так паўсюль: прыгожа, але варта толькі збочыць...

Неўзабаве прыватны сектар саступае месца панэльным шматпавярховікам. Тыя, што ўздоўж дарогі, свецяцца новай фарбай. Аднак ля дома №30 трактар старанна працуе над траншэяй уздоўж усёй сцяны, з яе вытыркаюцца трубы.

Пасля мільёнаў, якімі «накачалі» Горкі перад «Дажынкамі», любы новы рамонт усяго праз год пасля старога выглядае дзіўна. Таму не зазірнуць за дом было нельга. Двор ветліва сустракае пустазеллем, кучамі будаўнічага друзу і сапраўднай «зоркай» — пачварным люкам каналізацыйнага калодзежа, які вытыркаецца адразу пасярод клумбы.

Не паспела люстэрка фотаапарата вярнуцца на сваё месца, як мяне атачылі бабулькі. «Здымай усё, дзіцятка. Пакажы, што робіцца!» — выкрыквалі яны. Жанчыны наўзахваткі цягнулі то туды, то сюды. «Паглядзі, год таму рамантавалі, а ўсё ўжо лупіцца!» — казала адна з іх. «Паглядзіце, якія жудасныя дзверы ў нашыя падвалы вядуць», — скардзілася другая.

Некаторыя ўхіляліся ад аб'ектыва фотаапарата і адгаворвалі суседку: «Ты ж у газету трапіш! Адыдзіся!» «А я не баюся! — адказвала жанчына. — Чаго мне ўжо баяцца? Вось, глядзіце, колькі смецця, і год як не прыбяруць!» — паказвае яна.

Потым мы адыходзім трошкі ўбок. Жанчына паказвае на два зялёныя кавалкі жалеза, што валяюцца на траве. «Гэта ў нас была стойка, каб выбіваць дываны. Калі рабілі рамонт, іх выкапалі і адкінулі ўбок. Абяцалі, а назад не паставілі».

Аднак асабліва турбуе жанчын адсутнасць тратуараў у двары — на іх месцы бугрыстая перакапаная глеба з каменнем.

### Фігавы лісток

Чым даўжэй гуляеш па Горках, тым выразней усведамляеш, што гіганцкія грошы пайшлі на рамонт фасадаў і парадных вуліц: Вакзальнай, Якубоўскага, праспекта Інтэрнацыянальнага, часткі вуліцы Сурганава і вуліцы Мічурына — яна вядзе да горацкага амфітэатра.

Пры гэтым зроблена ўсё цапулапу: мэтай асваення бюджэту хутчэй за ўсё было «пераджыць свята», а не зручнасць, даўгавечнасць і практычнасць.

На галоўных вуліцах паклалі тактыльную плітку — ля скрыжаванняў, пешаходных пераходаў, на аўтобусных прыпынках. Але, відаць, забыліся, што тактыльная плітка (для інвалідаў па зроку) мусіць ляжаць цягам усяго маршруту.

І нават гэта — усяго фігавы лісток для горада, бо шырокія вуліцы з роўным асфальтам, падфарбаваныя фасады дамоў толькі сарамліва прыкрываюць рэальную сітуацыю: вуліцы, дамы і людзі па-за «фасадамі» не атрымалі ні цэнта з 120-ці мільёнаў.

Калі прайсці па плошчы паміж зіхоткім гмахам будынка адміністрацыі і не менш зіхоткім трохзоркавым гатэлем «Пронія», па добрай беларускай традыцыі закаванымі ў люстраное шкло, а потым перад крамай №7, ля якой узімку пад зямлю праваліліся два чалавекі, павярнуць налева, трапляеш на вуліцы, дзе заканчваецца ўсё дажынкавае багацце.

Вуліца Дзяржынскага, якая пачынаецца адразу за будынкам райвыканкама, падобна да любой вясковай вуліцы без ходнікаў і з дзіравым асфальтам. На паралельнай ёй вуліцы Заслонава спробы зрабіць тратуары былі , але поспехам яны не завяршыліся. Нават на «дажынкавых» вуліцах сюд-туд аблупліваецца фарба, пачынае «граць» ці нават правальвацца плітка, ля аднаго з карпусоў сельгасакадэміі зеўрае вялізная дзірка ў новым асфальце. Што казаць пра «недажынкавыя», за якія нават не браліся, і, напэўна, нават не планавалі брацца. У жылых раёнах можна пабачыць сапраўдныя Горкі ў стане, у якім яны перабываюць ужо не адзін дзясятак гадоў.

### Быў ды не стаў

Вялікую частку невялікага горада Горкі займае знакамітая сельскагаспадарчая акадэмія з цудоўным батанічным садам і паркам. Гэта сапраўдная дамінінта, якую б можна было выкарыстаць для ператварэння горада ў турыстычную атракцыю...

Ціхая і цяністая вуліца Мічурына прыводзіць да карпусоў сельскагаспадарчай акадэміі і набярэжнай Ніжняй сажалкі. Менавіта тут разгарнулася асноўнае свята. Для гэтага на беразе сажалкі адмыслова пабудавалі вялікі амфітэатр. У ім прадугледжаны нават ліфт, акуратна разам з вінтавымі параднымі лесвіцамі ўбраны ў зашклёную ратонду. На жаль, магчыма, «Дажынкі» і былі адзінымі днямі, калі інвалід ці стары чалавек мог скарыстацца эскалатарам — цяпер дзверы ратонды надзейна замкнёныя, а ўнутры зладзілі сховішча будматэрыялаў.

Ад амфітэатра ў абодва бакі расходзіцца набярэжная. Свежае паветра і ціхае шапаценне лістоты — гэтага месца цяжка не палюбіць. Псуюць агульнае ўражанне ад шпацыру толькі недаробкі: то цагліна вывальваецца, то ў цэнтры роўнай кладкі нестыкоўка па гарызантальным узроўні. Зразумела, рабілі не на стагоддзі, а каб паспець да візіту важнага госця. Ды і каб не «Дажынкі», нават такая набярэжная ў Горках не з'явілася б, але «асадачак застаўся».

На шчасце, сумныя думкі не будуць доўга займаць галаву, бо неўзабаве набярэжная прывядзе да цудоўнага месца, дзе дарожка мусіла працягвацца, але не зрабіла гэтага. Яна не заканчваецца, яна проста недаробленая. Хутчэй за ўсё, першапачаткова было запланавана правесці дарогу вакол усёй сажалкі. Аднак да часу «ч» гэтага зрабіць так і не паспелі, а потым вырашылі кінуць дурное. Так і засталася расчышчаная пляцоўка недабрукаванай, з пакрыўленай агароджай. Нават апалубка засталася на сваіх месцах.

Пасля — зруйнаваная асфальтавая дарожка, з якой лёгка зваліцца проста ў ваду, затым — звычайная сцежка, якая ўпіраецца ў непралазны хмызняк. Насамрэч гэта не так і дрэнна, калі ўлічваць, што грамадскія прыбіральні ў горадзе адсутнічаюць як клас.

На другім беразе сітуацыя тая ж: брукаванка абрываецца пасля чарговага моста, ліхтарныя слупы не да канца закапаныя ў зямлю, саму ж дарогу проста размывае, бо няма ліўнесцёкаў...

### Затое з палацам!

Пасля дня ў Горках становіцца зразумела, што яны адрозніваюцца ад любога іншага невялікага беларускага горада толькі 3600 далярамі, якія «атрымаў» кожны гараджанін. Гэтыя грошы не змянілі амаль нічога.

Адкрытыя прасторы ля вуліц, якія маглі трапіць у аб'ектыў дзяржкарэспандэнтаў, аздобленыя свежымі дзіцячымі пляцоўкамі і абноўленымі фасадамі. Дзіцячыя пляцоўкі, якім не пашэнціла апынуцца на адкрытым месцы, нават не пафарбавалі. Яны бессаромна ржавеюць.

Пры беглым вонкавым аглядзе відаць, што да «Дажынак» горад сям-там не вельмі якасна «падмазалі». То бок не зрабілі нават таго, чым мусяць пастаянна займацца любыя нармальныя гарадскія ўлады. Пра ніякую татальную рэканструкцыю і рамонт гаворкі ісці нават не можа. Таму пасля візіту ў Горкі асабліва незразумела і сюррэалістычна выглядаюць просьбы рагачоўцаў вярнуць «Дажынкі-2013» ім, і ў той жа час натуральнымі падаюцца сумныя навіны са Жлобіна, які сёлета прымае на сябе дажынкавы ўдар.

Затое ў Горках з'явіўся аграмадны лядовы палац (пры адсутнасці сваёй хакейнай каманды). На ім вісіць новая шыльда дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы. І хоць прадавачка мясцовай крамы запэўніла, што ўзімку людзі на каньках катаюцца, у нейкую прыбытковасць, а разам з тым патрэбу ў падобным аб'екце не верыцца. Калі прыгадаць досвед 180-тысячных Баранавічаў, дзе лядовы палац у першы год сваёй працы аказаўся ў мінусе на 1 мільярд рублёў, зразумела, што ў 33-тысячных Горак ног на цэлы лядовы палац наўрад ці хопіць.

**Кірыла Хілько**

# Увасабленне мараў

**Карэспандэнт «НН» пабываў у толькі адкрытым Палацы Вялікіх Князёў у Вільні.**

У гэты Палац прыемна трапіць у спякотны жнівеньскі дзень. Не, гэта не Лядовы палац у Горках. Гэта Палац Вялікіх Князёў у Вільні — ягоная адбудова стала агульнадзяржаўным праектам у Літве. І такой адбудовай можна ганарыцца.

Муры. З вялізных сырцовых цаглін, так званай «панскай цэглы». Археолагі агалілі падзямеллі, падмуркі можна бачыць праз шкляныя купалы яшчэ з замкавага двара. Калі ж спускаешся эскалатарам у падзямельны хол, дзе каса, шатня і крама сувеніраў, муры абступаюць. У гэтым адрозненне віленскага музея ад старажытнага Бярэсця або раскапанай на Тураўскім гарадзішчы царквы XII стагоддзя. Там на тысячагадовую старажытнасць глядзіш з вышыні — нібы з балкона другога паверха.

У віленскія ж вялікакняскія сутарэнні можна зайсці. Прагуляцца калідорамі па спецыяльных ходніках, разгледзець водаправод з дубовых дошак, дрэнажныя адтуліны, закураныя паходнямі сцены, пабачыць цагліны, сплаўленыя да кансістэнцыі шкла ў выніку гіганцкага пажару, які ў свой час зрабіў палац непрыдатным для жыцця.

Магутныя кандыцыянеры трымаюць ідэальную для захавання муроў тэмпературу. Але дрыжыкі па скуры ідуць не ад гэтага халадка, а ад подыху нашай гісторыі.

Усё падсветлена, кожнае памяшканне (яны, ясная справа, без столяў, скляпенні абваліліся ў XIX ст.) мае план. Можна пабачыць, як яно выглядала за часамі Жыгімонтаў, якія пакоі былі над ім. А змешчаныя побач фота таго ж месца падчас раскопак паказваюць, якую гіганцкую работу зрабілі рэстаўратары.

Адна са сцэнаў хола — падмуркі канца XIII стагоддзя. Хто ставіў іх? Малады Гедымін? Віцень? Хтосьці нам невядомы?

Сумкі на ўваходзе просяць здаваць у гардэроб. Наўзамен юным наведніцам каля вахты з металадэтэктарам даюць папяровыя кароны — каб адчулі сябе князёўнамі. Квіток на агляд усёй чатырохпавярховай экспазіцыі каштуе 5 літаў студэнтам, 10 — поўны (17 і 34 тысячы адпаведна).

У адным з лёхаў рэстаўратары пакінулі гару цэглы — абрынутае скляпенне. На паверхні кожнай цагліны бачныя чатыры канаўкі: сляды пальцаў майстра, які яе рабіў. Кожная цагельня меціла сваю цэглу інакш.

Экспазіцыя першых двух паверхаў збудаваная па тым самым прынцыпе, што і ў музеі карабля Вазы ў Стакгольме: вакол галоўнага экспаната — ці то паднятага з мора карабля XVII стагоддзя, ці то паднятага з глыбіняў зямлі вялікакняскага палаца — месцяцца стэнды з артэфактамі тае эпохі.

Некаторыя экспанаты пададуцца знаёмымі: іх прывозілі ў Мінск летась, калі выстава з фондаў музея адбывалася ў Гістарычным. Але можна яшчэ раз зірнуць і на цырыманіяльныя драўляныя посахі, і на неверагодную кафлю з выявамі гербаў, фантастычных істотаў, вояроў, кабет — нібы Скарынавы гравюры, адбітыя ў гліне.

На выставе мноства дзіцячага абутку і цацак: скураны мячык XIV стагоддзя памерам з жаночы кулак, драўляны ваўчок з трох дошчачак — адна з іх абпаленая... А поруч — вазы з каляровымі алоўкамі і размалёўкі для дзяцей сучасных. Размалёўваць можна пераззнятыя выявы з кафлі, у тым ліку — Пагоню, партрэты каралёў. А побач на стэндах — шахматы, якім 400 гадоў, і драўляныя дошкі для настольных гульняў, кшталту нардаў ці перастаўлянак. Тут



**Сярэднявечная галантарэя і абутак. Некаторыя мадэлі — рыхтык «Белвест».**

Цана аднаўлення Палаца Валадароў — 126 млн даляраў за 25 гадоў.

Цана пабудовы лядовага палаца «Чыжоўка Арэна» — 189 млн даляраў за 3 гады.



**Паляўнічы рог, упрыгожаны гербам Рэчы Паспалітай і выявамі каралёў. 1587.**




**Зашчэпка для кнігі з надпісам «Барбара». Ці не з бібліятэкі Барбары Радзівіл?**

## Як адбудоўвалі Палац Валадароў

**Палац Валадароў, ці Палац Вялікіх Князёў — так яго цяпер называюць у Літве. У нашай гістарыяграфіі ён больш вядомы як віленскі Ніжні замак.**

Сярод 2000 гасцей на адкрыцці адбудаванага Палаца былі і былыя прэзідэнты Літоўскай Рэспублікі, і цяперашняя кіраўніца краіны Даля Грыбаўскайце. Яна выступіла на цырымоніі з урачыстай прамовай. Гэты Палац, сказала яна, адкрывае з пачаткам старшынства Літвы ў Радзе Еўрасаюза, а калісь менавіта тут адбываліся падзеі, што прадвызначалі лёс Еўропы. Спадарыня Грыбаўскайце мае рацыю. У палацы жылі і спыняліся каралі і вялікія князі Жыгімонт Стары, Жыгімонт Аўгуст, Сцяпан Батура, Жыгімонт Ваза, Уладзіслаў Ваза.

### Руйнацыя

Адбудова Ніжняга замка ў Вільні стала самым маштабным праектам такога кшталту не толькі ў Літве, але і беспрэцэдэнтным на ўсёй постсавецкай прасторы, бо гэты будынак быў разбураны яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя, задоўга да з'яўлення фатаграфіі. Яшчэ ў сярэдзіне XVII ст. палац быў моцна пашкоджаны. У другой палове XVIII ст. тут пасяліліся 25 розных сем'яў. Рэшткі старога Ніжняга замка расійскія ўлады разабралі дарэшты ў 1801 г. А ў канцы XIX стагоддзя былі зрытыя рэшткі валоў, пазасыпаныя равы і разбіты парк. Каб і напаміну не засталося.

Мару пра ўзнаўленне гэтага комплексу патрыёты неслі больш за два стагоддзі.

### Пачыналі з раскопак

На хвалі перабудовы урад ЛітССР знайшоў сродкі, каб распачаць маштабныя раскопкі ў 1987. Яшчэ ў пачатку 1980-х у адбудаваным нанава Старым арсенале адкрыўся найцікавейшы Музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Падчас археалагічных даследаванняў былі выяўленыя аскалкі каменных пабудоваў XIII—XIV стст., падмуркі і сутарэнні XV—XVI стст., рэшты мазаік. Металічныя знаходкі адразу кансервавалі, рэстаўравалі і рыхтавалі для захоўвання і экспазіцыі. Адначасова выконвалі іх якасны хімічны аналіз, каб вызначыць склад сплаву, ідэнтыфікаваць пакрыццё. Рабілі рэнтгенаграфію, каб вызначыць ступень захаванасці структуры знаходак. Увосень 1989 г. ускрытую археолагамі падземную частку палаца перакрылі дахам са шклопласту і пачалі экспанаваць для публікі.



**Руіны Палаца. 1797. Малюнак Францішка Смуглевіча.**

### Жаданне нацыі

СССР распаўся, а маладая Літва працягвала археалагічныя,





**Кафля. Вужыны кароль — персанаж балцкіх міфаў.**

жа вісіць апісанне правілаў: кожны можа паспрабаваць згуляць.

Пры знадворным баку муроў — зруб-студня. Да яе можна падысці ўсутыч. На бярвеннях відаць насечка ад сякеры. Падчас раскопак у студні знайшлі нават драўляны цэбар. Ён побач, змацаваны шклянымі абручамі... Кожны варты экспанат акцэнтаваны, для кожнага знойдзены спосаб падачы, які падсвятляе яго ўнікальнасць.

Музей можа пахваліцца вялікай колькасцю артэфактаў — тут і маляваны гліняны посуд XVI стагоддзя, і скураны абутак XVII стагоддзя (некаторыя фасоны да болю нагадваюць найноўшыя мадэлі беларускіх вытворцаў), і нават цудам захаваны саламяны капялюх, які гаспадар сцягваў з галавы пры з'яўленні мо яшчэ князя Альгерда.

Музей дае сістэмнае ўяўленне пра эпоху, якую адлюстроўвае. Экспазіцыя — не навал старажытных прадметаў. Яна стваралася з любоўю да эпохі. Так, ствральнікі пастараліся знайсці ўсе існыя партрэты яснавяльможных жыхароў палаца — аж да малюнкаў Самастшэльніка, які выяўляў Жыгімонта Старога ды Альбрэхта Гаштоўта ў біблейскіх сюжэтах...



**У старажытныя муры можна ехаць эскалатарам.**



**Кафля з камедыйным сюжэтам: смелыя зайцы смажаць паляўнічага, бароняцца ад сабак лукам і доўбняй і цягнуць у кацёл ваўка.**

Вось прыгажуня Бона, якой яна была, калі выйшла замуж за караля. Вось яна ў апошнія гады жыцця. Вось малы Жыгімонт Аўгуст. А гэты белавалосы анёльчык гадоў трох — будучы грозны Уладзіслаў Ваза, без пяці хвілін маскоўскі цар. А вось яго жонка, Марыя Луіза дэ Гanзага, якая пасля выйшла за ягонага брата Яна Казіміра. А вось і рэалістычны прыжыццёвы партрэт апошняга Вазы — твар, пасечаны зморшчынамі пасля эпохі Патопаў...

Выстава дапамагае пабачыць *людзей* у вялікіх князях і каралях, што кіравалі Беларуссю і Літвой 500 гадоў.

Не абыдзеныя ўвагай нават вялікакняскія і каралеўскія прыбіральні — гіганцкія мураваныя ямы. У апісанні з гонарам адзначаецца, што іх чысцілі, прынамсі, два разы за 200 гадоў.

Побач — каталог прадметаў, знойдзеных падчас іх археалагічнага даследавання. У асноўным гэта ўпрыгожванні — каралі, залатыя завушніцы. Мабільнікаў жа за часамі караля Аляксандра не было.

З кожным наступным паверхам экспазіцыі бачыш усё больш копій. Музейшчыкі прадугледзелі, што з часам увага прытупляецца, таму абставілі верхнія залы менш эксклюзіўным: заходнееўрапейская мэбля XVI—XVII стагоддзяў, якую можна пабачыць і ў Нясвіжы, заходняя ж зброя — цэлая зала з пікамі, алебардамі ды панцырамі. На алебардах — вышчарбіны з часоў Трыццацігадовай вайны.

У суседніх залах — копіі партрэтаў. Але якіх — гетмана Астрожскага (арыгінал у Нясвіжы), Уладзіслава IV пэндзля вучняў Рубенса.

Да каморкі з апошнімі экспанатамі ідзеш лабірынтамі сходаў, пасля — галерэяй, на сценах якой выяўлены падобныя да віленскага замкавыя комплексы. Сярод іх — Гродна і Нясвіж. Пры канцы шляху — пакоік з якімісьці залішне бліскучымі вялікакняскімі каронамі сучаснага вырабу, яскравым шкляным посудам XVI ст.

Асобна ляжыць меч караля Аляксандра, падняты з ягонай магілы ў віленскай Катэдры. Счарнелы ад часу меч на чырвоным аксаміце. Гэта і наша гісторыя, гэта наша супольная гісторыя. Літва дае добры прыклад, як трэба шанаваць сваё.

**Сяргей Мікулевіч, Вільня — Мінск**

кансервацыйныя і праектныя работы на гэтым аб'екце. Тады запанавала ідэя адбудовы вялікакняскага палаца Ніжняга замка і прыстасаванне яго пад рэзідэнцыю прэзідэнта Літоўскай Рэспублікі, што дасёння месціцца ў колішнім палацы Віленскіх генерал-губернатараў. Нават Альгірдас Бразаўскас, першы прэзідэнт Літвы, выказаўся з гэтае нагоды: маўляў, яму неспакойна знаходзіцца ў будынку, дзе раней жыў Мураўёў-Вешальнік ды іншыя кіраўнікі акупацыйных уладаў.

Сама фантастычная (як здавалася) ідэя адбудовы Ніжняга замка справакавала гарачую палеміку ў літоўскім грамадстве і рашучы адпор часткі навукоўцаў. Маўляў, наяўных выяваў недастаткова для навуковага аднаўлення палаца, яго ўнутранай структуры і інтэр'ераў. Калі ж і некаторыя палітыкі паспрабавалі абурыцца марнаваннем сродкаў, тагачасны літоўскі прэм'ер Адольфас Шляжавічус спаслаўся на «жаданне нацыі»...

Беларусы таксама вельмі раўніва сачылі за ходам гэтых працаў. Для Беларусі гэты досвед актуальны, як, бадай, ні для кога іншага. Прыклад Вільні такі блізкі!

Пасля доўгіх дэбатаў, у 2000-м, гэтым разам на хвалі эканамічнага ўздыму, сойм Літвы прыняў Закон аб узнаўленні Палаца Вялікіх Князёў. У 2002 годзе пачаліся маштабныя будаўнічыя працы. У 2003 годзе створаная дэндрахраналагічная лабараторыя, у якой вызначаецца ўзрост знойдзенай драўніны. Кансервуюцца і рэстаўруюцца керамічныя, шкляныя, бурштынавыя знаходкі. Пры супрацоўніцтве рэстаўратараў музея з іншымі ўстановамі і арганізацыямі выконваюцца хімічныя, тэхналагічныя, мастацтвазнаўчыя даследаванні керамічных і шкляных знаходак, ідэнтыфікуюцца складнікі керамікі, палівы, рошчынаў, асаблівасці іх вытворчасці. Перадусім гэтыя даследаванні прыдаліся падчас аднаўлення кафляных печаў.

Як тут не згадаць пра прыкры лёс Мінскай археалагічнай калекцыі, што мусіла б стаць асновай для Музея гісторыі горада? Нагадаю, у 2006 годзе адбылося скандальнае яе знішчэнне.

### Без аўралу

Пры тым гэтай уселітоўскай будоўлі быў нададзены выключна публічны статус — сюды вадзілі экскурсіі, была створаная адмысловая экспазіцыя па гісторыі віленскіх замкаў...

Усе этапы работ праводзіліся на конкурснай аснове. Конкурс на выкананне і каардынацыю праектных і даследчых работаў выйграў Цэнтр даследавання замкаў «Літоўскія замкі». Пра такую публічнасць і канкурэнцыйнасць нам, беларусам, можна толькі марыць. Дарэчы, грамадскі кантроль і маштабную грамадзянскую дапамогу здзяйсняе недзяржаўны «Фонд падтрымкі Палаца Валадароў» — зусім нечуваная сітуацыя ў Беларусі.

Першапачаткова планавалася закончыць будаўнічыя працы да святкавання тысячагоддзя Літвы ў 2009 г., але не паспявалі і аўралу рабіць не сталі.

### На конкурснай аснове

Такім чынам, дзякуючы нястомнай рупнасці інтэлігентаў-летуценнікаў, амбіцыям літоўскіх чыноўнікаў і «жаданню нацыі», здзейсніўся сапраўдны цуд — страчаны больш як два стагоддзі таму Ніжні замак наноў паўстаў пад гарой Гедыміна.

На сёння каштарыс Палаца кіраўнікоў склаў 126 млн даляраў. Калі падзяліць гэтыя сродкі на 25 гадоў, якія цягнуліся працы, то лічба не падасца фантастычнай нават для беларускага бюджэту. На наступную частку работаў, адбудову другой часткі будынка, раскопкі, кансервацыю і музеефікацыю спатрэбіцца яшчэ блізу $28 млн.

Як бачым, могуць здзяйсняцца мары, калі яны робяцца марамі агульнымі, калі пануе дух галоснасці і адкрытых дыскусіяў, калі да працы ў адкрытым фармаце і на альтэрнатыўнай аснове прыцягваюцца шырокія прафесійныя і грамадскія колы, калі праекты адкрытыя для крытыкі. Але перадусім гэта мусіць быць жаданнем нацыі, якая хоча бачыць сябе гістарычнай, угрунтаванай у традыцыі, якая хоча адстойваць сваю ідэнтычнасць.

**Сяргей Харэўскі**

# Алень і аленіха,
## або Чароўны голас Нежаўца

Пасляслоўе да «Бард-рыбалкі-2013».

Пасля першай фестывальнай ночы мая інтэлігентная жонка, настаўніца з трыццацігадовым педстажам, прачнулася са словамі: «Пакажыце мне гэтую б..!» За ўсё наша доўгае сумеснае жыццё я не чуў, каб яна сустракала дзень мацюкамі. З павагай і разуменнем паглядзеў на яе.

А ўсё пачыналася так мірна. Зноў сабраліся вялікай брыгадай на «Бард-рыбалку». Падобна, што гэтая падзея становіцца нашай штогадовай традыцыяй. Сустракаеш на Чыгірынскім вадасховішчы сябрукоў, якіх месяцамі не бачыш у горадзе, абрастаеш знаёмымі з розных краін, слухаеш спевы і смакуеш юшку.

Дарэчы, фішкай гэтага года стала менавіта юшка — самая вялікая ў свеце. Прадстаўнік Кнігі рэкордаў Гінэса гэта пацвердзіў. На тры тоны (а мо на чатыры?) вады было чатыры закладкі рыбы. Карп атрымаўся надзвычай смачным. А вось сама юшка была недасоленай. Гатавалася доўга. Падрыхтоўка выклікала большы ажыятаж, чым страва.

Сёлетняя «Бард-рыбалка» можа пахваліцца яшчэ адным дасягненнем: магілёўскі асілак Віталь Сітніц усталяваў новы сусветны рэкорд — за 5 хвілін з адвольнай зменай рук 196 разоў пхнуў гіру вагой 32 кг. Іншая магілёўская знакамітасць — скульптар Вараб'ёў — адкрыў свой манумент пацалунку. Карацей, было шмат цікавага.

Не сказаць, што бардаўская песня зусім адышла на другі план фестывалю. Канцэрты былі разнастайныя. Слухачоў і гледачоў было значна больш, чым раней. Апладысменты — шчырымі. Нават «брава» крычалі. Але гучных імёнаў сёлета было відавочна менш. Нацыянальны каларыт недзе прыхаваўся. Раней яго забяспечвалі больш вядомыя беларускамоўныя барды ды цётачкі ў нацыянальных строях быхаўскіх арганізацый, якія на сваіх імправізаваных падворках спявалі па-беларуску. Сёлета Быхаў рыхтуецца да свята пісьменства і ягоная прысутнасць была менш яркай.

А вось арганізацыя фэсту была значна лепшай за леташнюю. Мінулагодняя ўрокі і заўвагі ад знакамітага знаўца бардаў і гурмана Барыса Бурды хлопцы ўлічылі. Я б сказаў, што прагрэс адчуваецца кожны год. Нездарма брэнд «Бард-рыбалка» гатовы пераманіць да сябе Мядзел. Праўду кажуць: спачатку ты ўваходзіш у рынак, умацоўваешся у ім, а праз гадоў пяць ты сам вызначаеш рынак.

Хаця сказаць, што ўсё было арганізавана і спакойна, нельга. Без прыгодаў не абышлося.

Справа ў тым, што першая фестывальная ноч падарыла некалькі сюрпрызаў. Пасля неблагога агульнага канцэрта, дзе найлепшым па выкананні быў, што прыемна, магілёвец Аляксандр Баль, мы ўначы праслухалі яшчэ адзін канцэрт. Нежавец атабарыўся ў нашым лагеры, пасядзеў з сябрамі, узрушыўся і вельмі добра і доўга спяваў. Аляксей спяваў свае і чужыя на беларускай і рускай па ўласным жаданні і замове. Паступова ўсе іншыя гітары змоўклі, народ перацёк да агульнага вогнішча непадалёкад нас. Выканаў бард багата песняў Высоцкага, у тым ліку пераклады на беларускую мову Міхася Булавацкага. Праспяваў і маю любімую «Суседку». Да гонару Аляксея, ён публіку каля начнога вогнішча ўспрымаў менавіта як сваю аўдыторыю, адносіўся да ўсіх прапаноў з павагай, належны ўзровень імкнуўся трымаць. Усё было б цудоўна, калі б ягоны канцэрт не зацягнуўся да трэцяй ночы, а пасля антракта не працягнуўся ад шостай да сняданку. Не ўсе змаглі гэта вытрымаць.

Але не Нежавец зрабіў ноч па-сапраўднаму цікавай. Не ён стаў самай яскравай зоркай. Па завяршэнні ягонага канцэрта, калі народ пачаў укладацца, распачалося самае цікавае — на сцэне з'явіліся Алень з Аленіхай і пачалі высвятляць свае жывёльныя адносіны. Яны гойсалі па лагеры, амаль змятаючы намёты і нешта даказваючы адно аднаму. Высвятленне ішло на зразумелай толькі жывёлам мове, у якой, што цікава, добра чуваць было ненарматыўную і табуяваную лексіку ды некаторыя аўтарскія неалагізмы. З таго, што запомнілася і можна запісаць літаратурнай мовай: «Алень!», «Сама Алень!», «Што я кажу Алене, ён жа не разумее!» Астатняе практычна не перакладаецца.

**Затое сёння ноччу я зразумела важнае. Якія ж нашы мужчыны добрыя і выхаваныя!**

Як мы падлічылі раніцай, гэта быў пачатак «Дом-1». Потым быў «Дом-2», «Дом-3» і ранішні «Дом-4». Кожны сезон па некалькі серый. Перыядычна сябры супакойвалі парачку. Але як толькі лагер пачынаў засынаць, яны вярталіся. Яны заўсёды вярталіся. Дзеля справядлівасці трэба прызнаць, што час ад часу Алень спрабаваў укласці Аленіху ў аўто, але было чутно, як заміналі гэтаму ейныя, мабыць, задужа доўгія, ногі. Яна ў сваю чаргу, відаць, спрабавала зрабіць ягоны фэйс больш прыгожым, а патыліцу раўнейшай.

Калі месяц схаваўся ў хмарах, мая не вытрымала і папрасіла заступіцца за дзяўчыну. Я, не выходзячы з намёта, прыстрашыў Аленя міліцыяй і абазваў казлом. Як жа ён абурыўся! «Хто казёл?! Хто мяне казлом назваў?!» — завыў Алень і чамусьці кінуўся ў суседні хмызняк. Але ўначы, зразумела, крыўдзіцеля знайсці не здолеў. Жонка сціснула маю руку і больш не прасіла нікога супакойваць. Супакоіліся парнакапытныя толькі тады, калі а шостай прачнуўся і заспяваў Нежавец. Аленіха адразу зацікарылася, перастала патрабаваць адвесці яе дахаты, а потым некуды знікла.

Зразумела, з якімі галовамі прачнуўся лагер зранку. Але негатыў неяк хутка і непрыкметна пераўтварыўся ў пазітыў. Крыху ачуняўшы, адна з жонак урачыста заявіла: «Затое сёння ноччу я зразумела важнае. Якія ж нашы мужчыны добрыя і выхаваныя!» Тое ж сказалі мужы сваім жанчынам. Усе ў нейкім новым ракурсе і з большай павагай пачалі глядзець адзін на аднаго, паралельна згадваючы падрабязнасці начнога серыяла.

Вось такой яна мне запомнілася — «Бард-рыбалка 2013»: сусветнымі рэкордамі, песнямі Нежаўца і пераўтваронымі людзей у жывёл. Абавязкова прыеду сюды ў наступным годзе.

**Алесь Кандуіт, Магілёў**

# Беларуская глыбіня. **Статкевіч**

Піша **Павел Севярынец**.

*І явіўся яму Анёл Гасподні,*
*І сказаў яму:*
*Гасподзь з табою, муж дужы!*
*Суддзяў, 6:12.*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Пра існаванне Міколы Статкевіча я даведаўся ў той самы дзень, калі стаў беларускім нацыяналістам. У пачатку 1994-га, перад прэзідэнцкай кампаніяй, у Віцебску, у Акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа — тым самым, што збудаваны на месцы старажытнага Верхняга замка, і на даху якога дагэтуль мроіцца вежы камяніцы Альгерда — выступаў Зянон Пазняк.

Акрамя кольках соцень прыхільнікаў, Зянона сустракалі *чорная сотня* камуністаў ды славянасаборнікаў: у цёмных палітонах ды ў куртках з плакатамі пра «фашызм» і «єдінство народов». Яны сталі шэрагам перад калонамі тэатра і загарадзілі ўваход.

І тады хлопцы з Беларускага згуртавання вайскоўцаў у барэтах з Пагоняй ды белчырвона-белымі нашыўкамі на камуфляжы па-жаўнерску, радком прайшліся ўздоўж чорных, пазрывалі агітацыю ды пашыхтаваліся ля ўвахода, каб віцьбічы змаглі прайсці. Каманды гэтым хлопцам — з трэхарнай картавінкай, але зычна — аддаваў малады Мікола.

А потым аказалася, што галоўнае наша з ім скрыжаванне — рог вуліцаў Нямігі і Ракаўскай. Там стаіць фундаваная ў XVII стагоддзі Статкевічамі мая царква, Свята-Петрапаўлаўскі сабор. У часы Контррэфармацыі адзіны дзеючы праваслаўны храм Мінска (тады — у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату), пасля разбору Рэчы Паспалітай ён быў адрамантаваным на царскія грошы — і перайменаваны ў Кацярынінскую царкву. Менавіта тут, дзе адбываюцца беларускія набажэнствы і выдаецца львіная доля беларускамоўных праваслаўных кніг, я ўпершыню спавядаўся і прымаў прычасце і якраз тут пачынаў дзень Плошчы.

Здавалася б, сам Статкевіч у царкве бывае нячаста. Але самая ўражвальная евангельская ўспышка — гэта калі на зломе, з трэскам касцей, дзе і верніка нікавеюць, у не надта рэлігійным чалавеку раптам адкрываецца Ісус.

Вось 20 жніўня 1991, назаўтра пасля путчу, Статкевіч выступае супраць ГКЧП, пачынае ствараць Беларускае Згуртаванне вайскоўцаў — а потым праравае на радыё і звяртаецца з заклікам не падпарадкоўвацца хунце.

Вось падчас хапуна на Маршы Свабоды Статкевіч прыкрывае сабой падлеткаў і дзяўчат ад ашалелага спецназа — і трапляе ў турму.

Вось на акрэсцінскіх «сутках» апякае навічкоў, заступаецца за маладафронтаўцаў перад канвоем ды аддае сваё паліто.

Вось у «амерыканцы» ён адзіны больш за месяц трымае галадоўку пратэсту — і мы ўжо наварочваем па сваіх камерах гэбоўскі супчык, а ён у камеры цягне лямку за ўсіх.

Вось у Магілёўскай турме Статкевіч дамагаецца, каб зняволеным пачалі выдаваць належныя, паводле ўрадавых пастановаў, прадметы гігіены — і толькі чуваць, як грукаюць «кармушкі», і камера за камерай, «крытка» пачынае радасна раўці.

Ад некалькі добрапрыстойных, салідных, паспяховых і глянцавых дзеячаў даставалася Статкевічу: маўляў, і недамовадольны, і некамандны, і разбуральнік, і скандаліст, і, аёечкі, знаёмы з Шэйманам (які калісьці ўступіў у БЗВ)...

Але потым раптам аказвалася, што і выйсці на вуліцу ратаваць нацыянальны гонар, або сказаць праўду ўголас, або хаця б сустрэць небяспеку ў твар, калі ўсе бягуць, больш няма каму.

...А даць поўху вылюдку, аўтару «Дзяцей хлусні», акрамя Статкевіча, ахвотных няма.

... А з кандыдатаў Плошчы ён адзіны дагэтуль застаецца за кратамі.

Статкевіч *нязручны*? Вострты? Ярышасты? А дзе, скажыце, вы бачылі сапраўднага шляхціча без асабістай незалежнасці, без годнасці, без шаблі, выхапленай з похваў?

Статкевіч — баец. Гульцоў у беларускім палітыкуме хапае, байцоў вобмаль. Дык майце ж на ўвазе, ён баец, з усімі, як кажуць, вынікаючымі.

У 2010 менавіта Статкевіч перамог на грамадскіх дэбатах тут.бая, і менавіта яго, свайго цёзку, калі на гэты раз верыць Аляксандру Рыгоравічу, аціаніў маленькі Міколка: «Не дасі цацку — прагаласую за Статкевіча».

Да яго ўвесь час падсаджваюць правакатараў або заразна хворых.

Мне перапіска са Статкевічам забароненая. Яму прыходзяць толькі канверт з надпісам цэнзара. У 2005 паехалі мы з ім як *падзельнікі* на «хімію» пасля шэсця супраць рэферэндуму аб трэцім тэрміне: мне ў лес, яму спярша — рамантаваць лядоўні, а потым у зачуханы калгас. Трэба ж было нам прынізіць падпалкоўніка са слуцкім шляхецкім гербам, кандыдата тэхнічных навук, аўтара больш як 60 працаў у галіне аўтаматычных сістэмаў, эргаміцы, інжынернай і сацыяльнай псіхалогіі, з дысертацыяй «Тэорыя эфектыўнага ўзаемадзеяння чалавека і машыны ў сістэме кіравання».

Як толькі (і хто толькі) ні спрабавалі зламаць Статкевіча. І рэжым, і свае — чаго вартая адна гісторыя з сацыял-дэмакратыяй.

А ён не ламаецца. Трымаецца. І, бач ты, — усміхаецца.

Статкевічу як байцу надзвычай пасуе ўсмешка — яна ўмомантператварае грубаватага вайскоўца ў зухаватага шляхціча і толькі падкрэслівае гвардзейскую *стаць*... Яму пасуе прозвішча *Статкевіч*!

Ад такіх людзей нават геройства чакаеш як нечага само сабой зразумелага.

А зараз...

У турме бліжэй чым дзе да Бога. Бо тут чалавек найцясней з уласным сэрцам.

Таму героі не адбываюць там пакаранне, а гартуюць сэрца. Кшталтуюць свае крокі ад дзвярэй да акенца, адчыняюць замкі ды засовы ў самім сабе, каб аднойчы, сярод ворагаў, жанчын у слязах, у болі і ўціску, праз іх зноў раптам адкрыўся Той, хто Адзін цярпеў за нас усіх.

*Куплін*

**А ён не ламаецца. Трымаецца. І, бач ты, — усміхаецца**



Напісаць Статкевічу можна на адрас:

Мікола Статкевіч. 212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма № 4.

# Чарвяк

**Зміцер Дашкевіч**. Аповесць.

*Галоўны герой аўтабіяграфічнай аповесці адседжвае палітычны тэрмін у калоніі на Віцебшчыне. Пакараны за «парушэнне», ён стаіць у цеснай клетцы між працоўнай і жылой зонамі калоніі. Невядомы зэк кладзе яму ў далонь цукеркі. Бліжэй пазнаёміцца з Дзянісам удаецца ў «адзіночцы», куды абодва трапляюць за «парушэнне рэжыму»...*

**Працяг. Пачатак у «НН» ад 17, 24, 31 ліпеня, 7 жніўня.**

Надта ўжо захацелася суседу нашаму, Санчоўсу, курыць. Цыгарэты, занычкаваныя чынарыкі і мяцёлка былі пакураныя, а таму паўставала пытанне: як жыць далей? Адным з варыянтаў для тых, каго трымаюць у ШІЗА-ПКТ, было наведванне санчасці, і варыянтам гэтым Санёк вырашыў скарыстацца.

У санчасць вёў кантралёр, і там за зэкам як парушальнікам рэжыму, што адбывае дысцыплінарнае пакаранне, назіраў: каб не збег з-пад арышту, каб не перамаўляўся з іншымі асуджанымі ў санчасці ды каб ніхто і нічога не ўмудрыўся яму перадаць.

У зоне дзівакоў хапае, але каб збягаць з ізалятара зоны ў проста зону — такіх не знойдзеш. Гэта ж не зона ў 200 тыс $км^2$, у якой некаторыя па дарозе ў ізалятар здолелі выклікаць хуткую і даць потым дзёру з рук медработнікаў (ёсць пару такіх герояў у белапазіцыі). А куды бегчы ў зоне ў адну сотую $км^2$? У якую дзірку ні ўшчэмішся — і прыйдуць, і за пятую кропку выцягнуць, і па пятай кропцы надаюць, і ў пуню зноў закінуць. А вось каб перахапіць у санчасці ў каго-небудзь курыва — святая справа. Але гэта тады толькі, калі якая добрая душа гатовая пайсці на рызыку і адшкадаваць зэку пару цыгарак. Часіны ж цяпер нялёгкія — на аднаго ахвотнага рызыкнуць знойдзецца дзевяноста дзевяць, якія ўжо ў мокрых портках.

Аднак Санчоўсу пашанцавала — напаткаў ён таго першага і перахапіў на дзянёк курыва. Ды толькі і ахова не дарэмна хлеб свой ела ў той дзень — па вяртанні ў камеру сусед наш быў надгледжаны, цыгарэты знойдзеныя і адабраныя ў прыбытак дзяржавы. І вось тут пачаўся цырк на дроце.

— Серы, ты не дуры, дай цыгарэты назад, — спачатку ціха адчальваў баркас Санчоўса.

— Забаронена перадаваць цыгарэты, — таксама спакойна адказаў кантралёр.

— Ды што тут забароненага?

— Ты ж на ўмовах ПКТ у адзіночцы?

— Ну.

— Дык ведаеш сам, што нічога браць у асуджаных табе нельга.

— Ды ты паслухай, — павялічваў баркас абароты. — Пару цыгарэт — не злачынства!.

— Табе не злачынства, а мне — злачынства, — тлумачыў Сяргей. — Бачылі мы такіх: спачатку просяць, а потым у операддзел бягуць.

Тут Серы казаў праўду. Кантралёрам ён быў небядовым і з зэкаў кроў не смактаў. Раней, бывала, гатовы быў паспрыяць стрыжанаму ў якой дробнай бытавой справе: заплюшчыць вочы на тыя ж цыгарэты; дазволіць раздатчыку ежы перадаць з камеры ў камеру заварку; не перашкодзіць выведзенаму з ізалятара ў душ зэку адзець на сябе пасля памыўкі зменку — другую пару споднягa і шкарпэтак, каб зусім не акалеў ссінелы парушальнік рэжыму ў ШІЗАўскіх 10 градусах.

Нават сярод службоўцаў гэтай сістэмы ёсць некаторыя, што захавалі людскасць. Але з кожным годам праяваў велікадушнасці назіраецца ўсё меней. А прычына — шырокая агентурная сетка, з зэкаў.

Вымаліць зэк цыгарэту ў кантралёра — і сам жа яго ў операддзел закладзе; альбо, наадварот, нападхалімнічае якому-небудзь старлею, увойдзе ў давер, а потым раз — і пачак цыгарэт яму на стол. А цыгарэткі няпростыя, з меткаю. І ідзе са спакойнай душой супрацоўнік да начальніка операддзела, які невядома чаго выклікае пагаварыць, а опер, так, між словаў: «Дай, таварыш, закурыць, а то забыўся свае». Лейцёха дастае той самы пачак, працягвае оперу і на гэтым развітваецца не толькі з цыгарэтамі, але і са сваёй квартальнай прэміяй...

Па такой схеме і з дапамогай многіх, многіх іншых прыгожых інтрыгаў ідуць у топку усе: кантралёры, афіцэры, зэкі ўсіх рангаў і нават вальнячыя майстры з прамзоны.

Можа ўзнікнуць пытанне: а для чаго гэта зэку-сексоту? А зэк за гэта атрымлівае плюсік. А за назбіраныя плюсікі можна: стаць на ўзмоцненае харчаванне (самы шыкоўны бонус, асабліва калі няма каму «грэць»), атрымаць дадатковую пасылку, палепшыць бытавыя ўмовы ў атрадзе і... шмат-шмат што яшчэ можна — абы плюсікі былі!

Таму небядовы хлопец Серы меў досыць прычынаў перастрахавацца. Аднак ці то заўвага пра операддзел абразіла Санчоўса, ці прага атрымаць дозу нікацінавай атруты ўзяла верх над розумам, але завёў Санёк баркас па поўнай:

— Ды ты не ламайся ...піп... дай ты ...піп-піп... сюды цыгарэты ...піп.

Па гуках было падобна, што Серы, спартовага складу хлопец, пачаў запіхваць суседа нашага ў камеру, на што той запратэставаў таксама:

— Давай акуратней ...піп-піп... а то і ў адмашку магу пайсці ...піп-піп.

— Ты? У адмашку? — пакпіў кантралёр. — Баюся, ад цябе мала што застанецца.

— Усе вы ...піп-піп... смелыя, як з дубінкаю ды па форме ...піп-піп... а сустрэнеш вас дзе пад вуглом, сікаецеся ў штонікі без памперсаў... піііііііп... — тут пакутнік па нікаціне перайшоў ужо на персоны. І апошнія яго словаформы — калі ён канчаткова зразумеў, што цыгарэты будзе паліць нехта іншы — былі асабліва брутальнымі. Сярога абавязаны быў на іх рэагаваць:

— Ты ...піп... за словы свае гатовы адказваць? — гаркнуў ён сваім басам.

— Я заўсёды адказваю, — ганарлівым тэнарком праспяваў з-за дзвярэй Саня-Тэрмінатар.

— Ну глядзі, — ужо спакойна адказаў Серы і сышоў.

Не паспелі мы з Дзёнем і падзівіцца, як цудзіць курыльшчык без баяна, аж загрукаталі боты па жалезнай лесвіцы і зарыпелі дзверы Саневай адзіночкі.

— Выходзь! — крыкнуў Сяргей.

Санчоўс выйшаў моўчкі, і ўсе рушылі ўніз, на першы паверх. Добрая гучнасць дазваляла нам чуць і тое, што адбывалася паверхам ніжэй. Прагучалі ўладарныя загады: «Да сцяны!», «Ногі!», «Шырэй!», «Шырэй ногі!», пасля чаго пачуліся пяшчотныя паляпванні гумавымі прыкурвальнікамі ды ўдзячныя воклічы курца: «Авой!», «Ды ты што!», «Што ж вы творыце!», «Харош, Серы!»

Мы з Дзянісам спачувалі як маглі — ледзь не плакалі, рагочучы.

— Во, той, што ў адмашку пайшоў! — крыкнуў я.

— Так, зараз яму находзяць! — падтрымаў Дзёня.

Серы ж спыніў працу і прыгадаў:

— Дык ты ж збіраўся за словы свае адказваць?

— Ты мяне не так зразумеў, Серы! — адказаў як мог за свае словы Санёк.

Пасля яшчэ некалькі свістаў перавыхавальніка ў паветры, якія скончаліся лясканнем аб мяккія тканкі — і перавыхаваны быў вернуты ў хату.

Мы з Дзянісам ажно заходзіліся:

— Ну што, Санька, закурыў? — гагатаў Дзёня.

— Закуры-ы-ў...— скавытаў аматар тытунёвых смолаў на матыў аднаго са спеваў Вінцэнта.

— Мо ўжо і з курывам завяжаш?

— Глыбоцкая медыцына — найлепшая ў свеце! — не стрымаўся я, каб не парадавацца за Санчоўса і айчынных паслядоўнікаў Гіпакрата...

У перадапошні вечар знаходжання майго сярод блакітных азёраў Дзёня клікнуў мяне:

— Дзімон, давай мо заварым што?

У зоне прапанова што-небудзь зварыць і папіць разам зусім не азначае, што нехта прагне спатоліць смагу. Прапанова азначае: «Сябар, а давай з табою пагаворым!» Рэдка якая гутарка ў зоне адбываецца без гарбаткі, якая дыміцца ў кругалі на стале барака ці на лаве лакалкі.

Мы кожны ў сябе дома варылі пітво, а потым «вылазілі на рэшку» — стаялі ля вокнаў у сваіх адзіночках і, сёрбаючы гарачы напой, «заводзілі баркас» — разважалі.

— Дзімон, дык ты ведаеш, пра што я хацеў паразмаўляць з табой?

— Цікава, — уміхнуўся я, — няўжо мы пра гэта яшчэ не паразмаўлялі?

— Не, — без жарцікаў адказаў Дзяніс.

— Ну дык што там у нас на парадку?

— Кітайцы.

— Ды ты што?! — ледзь не падавіўся я.

— Так, і вось што ты пра іх думаеш?

— Старэючая, выміраючая нацыя.

— Як так? — здзівіўся ўжо Дзяніс. — А як жа правідцы... якія прадказвалі, што паглыне Русь жоўтая раса?

— Правідцы, Дзёня, пэўна, памыліліся, — перавёў я на жарт і ўжо на сур'ёзе патлумачыў: — Першае — гэта аборты, якія з'яўляюцца часткай дзяржаўнай палітыкі Кітая, і таму ўстаноўка «адна сям'я — адно дзіця» вельмі хутка справу сваю зробіць. Другое: у Кітая няма ні ідэалогіі, якая цэментуе, што яшчэ можна ўбачыць на Захадзе, ні агрэсіўнай веры, пад сцягам якой ідзе ісламскі ўсход. Таму, сябар, забудзься — ніякай небяспекі.

— А хто тады небяспека? — разгубіўся Дзёня.

— Ну... — пачаў было я, але надумаў гукнуць стырнавога баркаса. — Санёк, ты з намі?

— Так, ляжу тут на падлозе, — адказаў ён.

— Адпачывай, табе пасцельны рэжым карысны. Ты толькі прабач, што мы без цябе тут каву папіваем, — перапрасіў я і прыкалоўся з курца: — Каб ты таблеткамі не балаваўся, маглі б разам.

— Ды ладна, я ўжо на свабодзе буду хутка заварваць і какаву з малаком, і што заўгодна, — весела адказаў Санёк, якому, апроч ранейшых рэцэптаў, выпісалі яшчэ і дзесяць сутак ШІЗА. А пераведзены з ПКТэшнага рэжыму на ізалятарскі не меў права нічога мець пры сабе, апроч сродкаў асабістай гігіены.

— Дык вось, Дзёня, — працягваў я. — Большая небяспека — мусульмане: маналітная вера, моцная на яе падмурку ідэалогія, здаровыя сем'і па дзесяць дзяцей.

— Гэта так, — прамовіў з сумам Дзяніс. — Трэба неяк супрацьстаць ім!

— Пакуль мы дзяцей забіваем, а яны нараджаюць, любое нашае супрацьстаянне — фікцыя. Таму, сябар, толькі асабістым духовым адраджэннем. Хаця прагі да яго народ наш не праяўляе... Але гараваць не трэба, Дзёня, няхай ідуць — трэба ж камусьці будзе засяліць нашу зямлю. У нашым царстве добра ім будзе: нават сцяг мяняць не трэба чырвона-зялёны, ну, толькі мову падправіць прыйдзецца, ды і тое не нашую — нашую мы ўжо даўно за танны газ прадалі. Дык якая нам розніца, Дзёня? Няхай ідуць!

— Вось, Дзімон, а чаму мы так да мовы роднай ставімся? — падхапіў Дзяніс. — Яна такая ж у нас прыгожая...

— Прыгожая, Дзёня, прыгожая... Выхоўваюць нас такімі бяспамятнымі і бязроднымі... — з болем прамовіў я. А што было мне яшчэ казаць? — Але там, дзе чалавек можа мовы вырачыся, дык чаму ён не можа вырачыся духовасці?

— Філарэт заўжды катэгарычна выступае супраць абортаў.

— Не выступаць трэба, Дзяніс! Гэта мы з табою ўсё, што можам з нашых клетак, дык толькі выступаць. А Філарэт мае сур'ёзную ўладу, з якою абавязаны зайсці ў кабінет да самадзержца і паставіць яго перад фактам: «Заўтра аборты будуць забароненыя!» А ён замест гэтага абвешаў узурпатара з ног да галавы ордэнамі за духовае адраджэнне Беларусі! А ў чым адраджэнне, Дзёня? У тым мо, што за 20 год тры мільёны дзетак абартавана?

Канечне, пытанне было ў нікуды. Памятаю, у 2006-м выйшаў зварот мітрапаліта Філарэта з нагоды 20-й гадавіны трагедыі на ЧАЭС. Уладыка мільёнаў сямі праваслаўных пісаў пра дзве трагедыі нашага народа пры канцы 80-х. «Няўжо другая трагедыя, —падумаў я, —гэта развал краіны Гулагаў?» І запытаў, калі надарыўся выпадак сустрэць аўтара на прыёме з нагоды святкавання 230-годдзя Дэкларацыі незалежнасці ЗША. І вось, я запытваюся: «Няўжо пад другой трагедыяй вы мелі на ўвазе СССР, гэтую турму народаў, якая і праваслаўных стольківх замардавала?!» — «Гэта наша гісторыя», —адказаў з прыдыханнем былы народны дэпутат ВС СССР. «Дык і Гітлер для Германіі — гісторыя, але ці варта шкадаваць аб развале ІІІ Рэйху?» Філарэт ветліва са мною развітаўся...

— А ці паслухаўся б той Філарэта? — паспрабаваў абараніць мітрапаліта Дзяніс.

— А куды б дзеўся? А не, медалі з ордэнамі — на стол! З васьмюдзесяццю працэнтамі праваслаўных трэба ж заігрываць манарху, а тым больш у крызісны наш час, калі трон і так ледзь рыпіць... Але ж не, і першасвятар заігрывае з цэзарам, каб цэрквы будаваць, што пустуюць потым... Яны сваё пажнуць, толькі гэта нікому не будзе цікава — нас, па ацэнках ААН, будзе паўтара-два мільёны пад канец стагоддзя.

— Страшна нават спаць класціся пасля такога.

— Ды я і сам у шоку. Але, Дзёня, пакуль ёсць пара-тройка чарвякоў, гатовых пуза пакласці, дык мо шчэ не ўмёрла надзея? Трэба зарывацца ў нару, выспацца. Заўтра ж апошні дзень.

— Можа, не паедзеш яшчэ?

— Паеду, Дзёня. Колькі можна лайдачыць тут?! Людзі думаюць, што я пакутую, а я каўбасы жару і бакі вылежваю!

— Мог бы і адпачыць трохі,— заступіўся за мяне Дзяніс перад грамадскасцю.

— Ведаеш, як змагар адзін казаў: «Стаміўся? Адпачні. Але пасля гэтага ты ўжо не будзеш рэвалюцыянерам!» А мне ж, Дзёня, хочацца яшчэ паслужыць Бацькаўшчыне.

*Працяг будзе.*

**Дашкевічу можна напісаць:**

230023, Гродна, вул. Кірава, 1, Турма 1.

Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Можна таксама даць тэлеграму, прадыктаваўшы адрас на гарадскі нумар 166.

**Зміцер Дашкевіч**

Кіраўнік Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку, і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібыта за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

## БАСКЕТБОЛ

### Беларусь — Славакія




**16 жніўня** пройдзе адборачная гульня да чэмпіянату Еўропы-2015 па баскетболе. На паркеце Палацу спорту (пр. Пераможцаў, 4) пазмагаюцца нацыянальныя зборныя Беларусі і Славакіі. Пачатак а 19-й.

## ФУТБОЛ

### «Гомель» — БАТЭ

**17–18 жніўня** пройдуць матчы 21-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. **У суботу** сустракаюцца:
«Гомель» — БАТЭ (цэнтральная гульня тура);
«Славія» (Мазыр) — «Дынама» (Брэст);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Дняпро» (Магілёў).
**У нядзелю:**
«Дынама» (Мінск) — «Белшына» (Бабруйск);
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Нёман» (Гродна);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Мінск».

## ІМПРЭЗЫ

### TNT-прэмія

**Год таму ў Мінску з'явіўся рок-клуб TNT** — своеасаблівы аналаг Хардрок Кафэ. Адсвяткаваць гадавіну было вырашана з размахам — фэстам у парку Dreamland, дзе будуць вызначаныя найлепшыя рок-каманды па меркаванні TNT і яго наведнікаў. Сярод удзельнікаў — Re1ict, «Гаротніца», The Road Dogs, 2MORROW2LATE, IQ48 і іншыя. Хэдлайнерам фэсту стане самы «народны» брытанскі рокер, былы ўдзельнік Uriah Heep Кен Хэнслі, а таксама гуртдвайнік культавых Led Zeppelin пад назвай Boot Led Zeppelin.

# Вішнеўскі ў Мінску



17 жніўня вядомы польскі пісьменнік правядзе адкрытую аўтограф-сесію ў краме oz.by (вул. Русіянава, 4). Час — 11:00 — 12:30. Януш Вішнеўскі — аўтар культавага рамана «Адзінота ў сеціве».



### Джып-фэст-2013

**16—18 жніўня ў Цэнтры экалагічнага турызму «Станькава» агракамбіната «Дзяржынскі» (37 км ад кальцавой дарогі)** пройдзе першы ў краіне фэст усёдарожнікаў. Чакаецца ўдзел каля 150 джыпаў.




### F.R.A.M.

**22 жніўня ў клубе «Салтайм» (пр. Незалежнасці, 131/1)** выступіць гурт F.R.A.M. (Кіеў). Украінцаў у абноўленым сталічным клубе падтрымаюць мясцовыя гурты: HardWood, «Кашлаты Box», Omut. Білеты — 60—80 тысяч рублёў.

### Яблычны спас у Сілічах

**На гарналыжным курорце «Сілічы» (Лагойскі раён) 18 жніўня** пройдзе свята яблыкаў. Таксама ў праграме стральба з лука, горад майстроў, атракцыёны.

## КАНЦЭРТЫ

### Ева Польна

**18 жніўня ў Robinson Club на Мінскім моры** пройдзе канцэрт расійскай спявачкі Евы Польна. Білеты — 300 тысяч.

## ВЫСТАВЫ

### Ігар Саўчанка: «Паверка асноў»

**Да 28 жніўня ў Галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** праходзіць выстава «Паверка асноў» Ігара Саўчанкі. Аўтар прапануе наведвальнікам выставы выключна разумовую карціну свету, якая разгортваецца ў серыі тэкставых твораў.

### Наваградскі край вачыма Канута Русецкага

**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.

### Кардоннае сэрца

**На выставу лялек Кацярыны Пуставалавай «Кардоннае сэрца»** запрашае Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны,5).

### Выстава жывых матылькоў

**Да 25 жніўня ў Парку імя Горкага** выстава жывых матылькоў. Час працы — ад 10 да 21. Білеты 25 тысяч рублёў.

### Невядомая Балгарыя

**Да 6 верасня ў Newday (Няміга, 36)** выстава Віктара Арлоўскага «Невядомая Балгарыя».

## КІНО

### Рай і пекла

Элізіум: Рай не на Зямлі
Баявік, фантастыка
**Рэжысёр:** Ніл Бламкамп
**У ролях:** Мэт Дэйман, Джодзі Фостэр, Уільям Фіхтнер, Шарлто Коплі, Аліса Брага
ЗША, 109 хв.

Макс дэ Коста (Мэт Дэйман) з дзяцінства марыць трапіць на Элізіум — штучны горад на арбіце Зямлі, дзе жыве кіраўніцтва планеты і багатыя людзі. Горад, дзе няма хваробаў і чыстая штучная атмасфера. Але Макс гадаваўся ў інтэрнаце, да таго ж мае крымінальную біяграфію. Ён стаў на шлях выпраўлення, працуе на заводзе, дзе вырабляюць дроідаў і іншае абсталяванне для Элізіума, і атрымлівае смяротную дозу радыеактыўнага выпраменьвання. Апошняя надзея Макса — нелегальна трапіць у элітны горад цягам пяці дзён, каб паспець вылечыцца ў медыцынскай капсуле, якая ёсць у кожнага жыхара Элізіума.
Чарговая антыўтопія ад стваральніка «Раёна №9» Ніла Бламкампа зробленая ў той жа стылістыцы: праз сто гадоў Зямлю не чакае нічога добрага. Рэзкі кантраст паміж элітай Элізіума і перанаселенай, забруджанай Зямлёй, дроіды-ваяры і дроіды-прыслужнікі, экзашкілет для людзей, што вымушаныя з імі змагацца... Зямля будучага паглыбіць сацыяльны разрыў і нікуды не дзенецца ад робатаў. Але фільм пяе дыфірамбы асабістай сіле і самаахвярнасці, якія могуць змяніць гэты ўклад. Хаця б у нечым.

**Настасся Уласава**







### Джаз-вечар у Вайцюшках

**17 жніўня на хутары «Вайцюшкі» (Навагрудскі раён)** адбудзецца Джаз-вечар. Падчас закрыцця летняга сезона выступіць трыа Канстанціна Гарачага. Усіх аматараў добрых песняў і настрою запрашаюць. Кошт удзелу ў Джаз-вечары 80 000. У цану ўключана: купанне ў Нёмане, збіранне грыбоў, юшка.

# Турцыя, у якой ёсць усё

Піша **Вераніка Дзядок**.

Я люблю танныя бразготкі. З некаштоўных матэрыялаў, якія ні да чаго не абавязваюць. У чарзе на беларускі самалёт у ізмірскім аэрапорце заўважаеш, што твае спадарожнікі пачынаюць нервова зрываць з рук абручыкі, якія даюць права на карыстанне гатэльным пляжам, і разумееш, што здымаць свой абручык табе зусім не хочацца.

Трымайся, любачка, ты яшчэ не ведаеш, што бліжэйшыя тры гадзіны ты праведзеш у штурханіне, з жахам прыслухоўваючыся да суайчынніц, якія называюць сваю другую палову няйначай як **«скаціна»**.

Мне шкада пакідаць краіну, якая пераўзышла ўсе мае чаканні. Нечакана **ол-інсклюзіўны** (сорамна прызнацца!) адпачынак без аніякага намёку на прыгоды абярнуўся старонкамі любімай у дзяцінстве кнігі Ігара Мажэйкі «7 і 37 цудаў». Тады я і не марыла, што некалі на свае вочы змагу пабачыць цуд, пазначаны ў ёй пад нумарам тры, — **храм Артэміды Эфескай**. Гэтак жа, як чытаючы Пасланне апостала Паўла да Эфесянаў, не думала, што некалі наведаю Эфес. На гэтай зямлі кожны кавалачак дыхае сусветнай гісторыяй. Тут **Герастрат** спаліў **храм Артэміды**. Багіня не магла ўратаваць яго, бо была занятая: нараджаўся **Аляксандр Македонскі**.

Тут жыў і пісаў сваё «Адкрыццё» **апостал Ян**, тут яго і пахавалі жывым вучні. Тут правяла апошнія гады свайго жыцця маці Ісуса. Яе дамок убачыла ў канцы XIX стагоддзя ў відзежы адна нямецкая манашка. А біскуп Ізміра знайшоў тое месца паводле яе апісанняў. Нават калі б яно не адпавядала яе апісанням, такое месца варта было знайсці...

Плынь турыстаў і паломнікаў у **Эфес** не спыняецца. А кушадаскія гандляры з аднолькавым поспехам прадаюць і торбачкі з выявамі Virgin Maria, і статуэткі Артэміды, і майкі з турэцкімі нацыянальнымі сімваламі. А калі вам па дарозе сустрэнецца нейкая пячора, дык можаце не сумнявацца, што гэта ніяк не менш як пячора Зеўса.


**Ад храма Артэміды Эфескай засталася толькі адна калона. Затое на балацiне, дзе яна стаіць, уладкавалася ў буслянках мноства буслоў.**

### Хамамшчыкі і гіпнатызёры

Галоўная атракцыя турэцкага адпачынку для постсавецкіх жанчын — гэта **турэцкі хамамшчык**, па сумяшчальніцтве масажыст. Наш аказаўся навязлівым, з цудоўным веданнем рускай мовы і валоданнем вулічным фальклорам з лёгкім налётам бардэльнасці.

Турэцкая англійская афіцыянтаў, прадаўцоў, кіроўцаў аўтобусаў і аніматараў зводзіцца да трох выразаў: **фініш**, **катастроф** і **вэрі катастроф**. Высвятляецца, гэтымі трыма лексемамі можна патлумачыць вельмі многае. Так што візіт у Турцыю можа стаць першым крокам да пераадолення моўнага бар'ера для тых, хто ўсё жыццё вучыў англійскую, але не меў магчымасці ёю карыстацца. Вы з радасцю высветліце, што гаворыце па-англійску амаль на турэцкім узроўні ці нават лепш. І яшчэ з большай радасцю зразумееце, што ведаеце па-турэцку, прынамсі, тры словы: **«дурак»** (прыпынак), **«кавун»** (дыня) і **«карпуз»** (кавун).

Сказаць некалькі словаў практычна на любой мове свету могуць і гандляры сувенірных крамак, якія займаюць увесь **стары горад Кушадасаў**. Яны здалёк прыслухоўваюцца да мінакоў і звяртаюцца да іх на іхняй мове: «Как дела? Давай! Дзень добры!» Праўда, у іх адбываецца збой праграмы, калі на пытанне «адкуль?» адказваеш ім «Істанбул» альбо працягваеш дыялог па-турэцку. У адваротным выпадку табе раскажуць, што кузэн вучыцца ў Мінску (Варшаве), а бабуля з Берасця (Кракава), і глядзіш — усе твае грошы пайшлі на дублёнку, якую купляць ты і не збіраўся. «Яны ж гіпнатызёры!» — з містычным страхам перашэптваюцца паміж сабой турысты.


**Так выглядае клопат пра здароўе гараджанаў у Кушадасах: бясплатныя спартыўныя трэнажоры для ўсіх, хто стаміўся ад салодкага жыцця.**


**За працай над гэтым дываном ткачыха прабавіць бліжэйшыя 14 месяцаў.**

### Рамазан — фікцыя

Сямейная пара польскіх лямкоў-русінаў, твае новыя выпадковыя прыяцелі, пазбягаюць навязлівасці прадаўцоў, адказваючы ім, што яны з Лемкавіны. Гандляр задумляецца, і купец можа працягнуць свой шлях. У падарожжах здараюцца самыя неймаверныя сустрэчы: варта было ехаць так далёка ад дому, каб пасябраваць менавіта з суседзямі-лемкамі, з якімі хутка паразумеліся на глебе нацыянальнай меншасці. Іхняй у польскай дзяржаве і нашай у сваёй. Яны тут жа абрадавалі цябе, што прозвішча тваё — лямкоўскае.

Рамазан выявіўся вялікай фікцыяй. Ні табе барабаннага бою, ні «посных» твараў. Радасць і смех навокал. Цыгарэты там, дзе дазволена. А вось знакі дзяржаўнасці тут паўсюль. Турэцкія сцягі, часцей за ўсё яшчэ і з партрэтам **Мустафы Кемаля Атацюрка**. Партрэты яго ў маладосці, падобнага да Янкі Купалы, сустрэнеш у любой нетурыстычнай чайнай, а таксама ў сувенірных крамках — у якасці лямпаў, падставак на столік, бюстаў...

### Праблема стваральных гульняў

Адпачынак у Турцыі прынёс нечаканы клопат: неабходнасць тлумачыць дачцэ, што буські ад амаль чужых дзядзяў — гэта выключэнне, што так робіцца толькі ў Турцыі, і што ў Беларусі яна не павінна падстаўляць ім шчочку і пагатоў даваць бусі сама. Туркі пяшчотна ставяцца да дзяцей. Вельмі разумна браць з сабой дзетак, калі вы сабраліся набыць кілім ці іншы прадмет раскошы — зніжка вам забяспечана.

Лежачы на беразе і заклапочана гледзячы на той бераг — ці не пачаліся ў Грэцыі пажары? ці не гарыць ізноўку Алімп, абвяшчаючы канец еўрапейскай цывілізацыі? — ты назіраеш, як расейскі хлопчык раскідае пабудаваны тваёю дачкою пясочны замак. Не са злосці, проста ён не ўмее гуляць у стваральныя гульні. І ты смутна ўсведамляеш, што па-жаночаму ты пажадала б ёй лепей мець справу з прадпрымальным турэцкім хлопчыкам-прадаўцом на базары, памочнікам дзеда-гандляра, чым з ягоным аднагодкам-разбуральнікам дзявочых замкаў (мне каштуе высілкаў устрымацца і не напісаць «варварам»).

Нагоды для параўнання суайчыннікаў з туркамі будзе яшчэ нямала, і ты зусім па-іншаму пачнеш разумець тых пагарджаных раней табою светлавалосых танцорак бэліданса, што гастралююць па ўсёй Турцыі са сваімі выступамі.

А пакуль ты глядзіш на ананімнага расійскага хлопчыка (ён мог быць і беларусам), на якога ўвесь час крычыць яго заклапочаная ўласнай прыгажосцю маці, і пазнаеш у ім таго палкоўніка авіяцыі з твайго гатэля, што заляцаецца да польскай прыгажуні. Робіць гэта экс-палкоўнік выключна з расавых перакананняў, заўважыўшы цікавасць да польскай пані з боку аднаго турэцкага кавалера.

Расчараваннем для маёй сапсаванай тэлевізарам дачкі стала тое, што мы не сустрэлі ў Турцыі ні султана Сулеймана, ні ягонага вернага ваяку Балі-бея. Аднак яна не перажывае і ўжо просіцца ў Парыж. Глядзець на вежу. «А можа быць, мы сустрэнем там Пуаро...» Наўрад ці, дачушка, але новую бразготачку — абвязкова.

## Прыватныя абвесткі

**ПРАЦА**

**Выкладчык матэматычнага факультэта БДУ** прапануе рэпетытарства, падрыхтоўку да ЦТ, кансультацыі па ўсіх раздзелах вышэйшай матэматыкі, падрыхтоўку да экзаменаў і залікаў, дапамогу ў выкананні к.р. Заняткі ў цэнтры Мінска ці ў раёне ст. метро «Спартыўная». Магчыма выкладанне на беларускай і расейскай мовах. Магчымы пераклад тэкстаў з матэматычнай тэрміналогіяй на беларускую мову. Дар'я Аляксандраўна. Тэл.: 8029-160-45-86, navdasha@tut.by.

**Беларускамоўная дзяўчына шукае** падпрацоўку або працу па сумяшчальніцтве. Маю вышэйшую філалагічную адукацыю. Працую ў школе і цэнтры турызму (стаж — 2 гады). Захапляюся краязнаўствам і падарожжамі. Найперш цікавяць варыянты ў Лідзе, Баранавічах, Дзятлаве, Гродне і Мінску, але разгледжу любыя прапановы. Вікторыя. prysak@tut.by.

**ВІТАННІ**

Віншуем Рыгора і Ірыну Астапеняў з узяццем шлюбу. Сябры

**СПАЧУВАННІ**

**Выказваем шчырыя спачуванні** Уладзіміру і Міраславу Адамчыкам з прычыны смерці маці Ніны.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!


НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**Кангрэс Сведкаў Іеговы ў Мінску сабраў 10 тысяч чалавек з усёй краіны. Сабраліся людзі на стадыёне «Трактар».**



**Японцы падрыхтавалі для свайго касманаўта, які сёлета адправіцца на Міжнародную касмічную станцыю, памочніка-робата. І адправілі загадзя. На фота: ракета з каштоўным грузам, што ляціць да МКС.**



**Цукерка «Вока з начынкай» прадаецца ў Мінску. Няўжо нехта купляе такую жудасць?**



**Беларускі народны прыдарожны бізнэс — сезонная з'ява. Чым і як гандлююць беларусы ўздоўж шашы М1? Глядзіце рэпартаж Сяргея Гудзіліна на nn.by.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Злавіў Лукашэнка чароўнага сома.
А той яму кажа:
— Адпусці мяне, я любое тваё жаданне выканаю.
— А навошта? У мяне Ярмошына ёсць.

* * *

Міністр фінансаў, расказваючы пра кепскае эканамічнае становішча ў краіне, стараўся не ўсміхацца, каб не паказваць залаты запас.

* * *

На вяселлі валейбалісткі сяброўкі нявесты дзве гадзіны не давалі ўпасці букету.

* * *

У дачкі дырэктара малочнага завода пасаг захоўваецца максімум месяц.

* * *

Глухі хірург не карыстаецца наркозам.

* * *

Спецыяльная прапанова ад курортных лекараў — рэнтген з малпачкай.

* * *

Два гады бацькі вучаць дзіця гаварыць і хадзіць, а пасля гэтага 16 гадоў угаворваюць яго сядзець на месцы і паводзіць сябе ціха.

* * *

— У вас што, учора Стывен Сігал у гасцях быў?
— ???
— Мікрахвалёўка на апошняй секундзе спынена.

* * *

На чэмпіянаце свету па баях без правілаў пераканаўчую перамогу атрымаў снайпер.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** Тры тыдні таму назад з Вільні ў Дзвінск, як пасля ўдалося высветліць, нейкі Аляксандраў выслаў багаж. Тыдзень таму назад, разгружаючы вагон, работнікі пачулі крэпкі смурод ад карзіны. Калі, паклікаўшы паліцыю, адчынілі, то ў ёй знайшлі труп кабеты, саўсім голай, з ранамі на галаве; нябожчыца ў карзіне была ў сядзячым палажэнні. Дагэтуль паліцыі не ўдалося выкрыць, хто была тая кабета і той Аляксандраў.

**«НН». №33. 1913.**

**Урад развальвае калгасы.** Рэфармаванне калгасаў ідзе даўно, але ўлады агучваюць гэта неахвотна: не ведаюць яшчэ, ці ўдасца. У Лідскім раёне не засталося ніводнага калгаса – цяпер гэта ўнітарныя прадпрыемствы, кожнае з якіх узначальвае найманы менеджар, калгаснікі ўжо таксама не сябры кааператываў, як раней, а найміты.

**«НН». №30. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8012. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.08.2013.
Замова №3463.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13030
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12